С. ПАЎЛОВІЧ

# ПЕРШЫЯ ЗЕРНЯТКІ



## БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТКА ДЛЯ ХАТНЯГА НАВУЧАНЬНЯ

ВІЛЬНЯ 1936

# Як вучыць чытаць і пісаць.

**Чытаць** значыць гаварыць па кніжцы, бо ў кніжцы надрукаваны літарамі або буквамі тыя самыя словы, якія мы гаворым. Як кожнае вуснае слова складаецца з паасобных гукаў, так і кожнае надрукованае слова складаецца з паасобных букваў. Буква — знак гука. Колькі ў слове гукаў, толькі і букваў. Кожнаму гуку ў слове адпавядае пэўная буква. — Вучыцца трэба не гукаў, а букваў. Раней чым паказаць букву, трэба выдзяліць у слове гук, які адпавядае гэтай букве. Выдзяляй разлажыўшы слова на склады, а склады на гукі (хата... ха-та... та... т). Гукі трэба заўсёды выгаварваць чыста: ня можна выгаварваць бэ, пэ, тэ, цэ, эль, эм, эр, эс, ка, ха..., а заўсёды выгаварваць: б', п', т', ц', м', л' (цьвёрда), р', с', к', х'... — Буквы розьняцца адна ад другой. Хай вучань добра ўгледзіцца ў букву, якую вучыцца, а каб яна лепш і хутчэй утрымалася ў памяці, хай пашукае яе ў другіх мясцох буквара ці другой якой кнігі або старой газэты. Пры гэтым хай кожны раз голасна вымаўляе яе гук — і паасобку і ў цэлым слове. Чытаць трэба адразу цэлае слова. **І наагул увесь час навучаньня чытаць толькі цэлымі словамі.** Каб яны ня былі словамі без сэнсу, трэба даваць іх у пэўных сказах, якія складае на пачатку той хто вучыць, а пасьля сам вучань, напр.: калі чытаецца слова „кош“, трэба дадаць: „кош стаіць на падлозе“; — чытаецца слова „сыр“, дадай: „сыр сьвежы або сыр на стале“; — чытаецца „лапа“, дадай: „лапа сабакі“ і г. д. Ніколі не падсказывай, як прачытаць слова. Папраўіць можаш і мусіш, але за вучня ня чытай. Хай вучань сам даходзіць да ўсяго. Менш гавары ці тлумач. Вучань сам спытае, чаго не разумее. **Хай вучань пры табе якнайболш чытае, паўтарае.** Разумеецца, чытаньне будзе на пачатку маруднае. Інакш ня можа і быць. І хай чытае марудна, абы правільна. **Чытаць трэба заўсёды з разуменьнем, сьвядома, думаючы аб тым, што чытаеш і заўсёды бачачы вачыма чытанае слова.**

**Пісьмо** найлепш пачынаць, як пройдзеш першыя 10—15 букв. Пісьменныя буквы паказаны на старонках 39—42 буквара. Кожную адну букву даволі напісаць некалькі разоў. Не павінна быць таго, каб вучань — як то можа здарыцца — пісаў яе дзесяткі і соткі разоў. Хай знаёміцца з буквай, якую вучыца, у цэлых словах, і то не ў адных і тых-жа, а розных, бяручы іх з навакольнага жыцьця ці ўласных нагляданьняў і ўражаньняў. На пачатку гэта будуць словы — разумеецца — самыя кароткія, як на першых старонках буквара, — а далей пойдуць больш складаныя, і доўгія і на-канец цэлыя сказы. Як і пры чытаньні, кожнае слова трэба даваць у пэўных сказах, каб была думка (кош... стаіць на падлозе). **Заўсёды пісьмо павінна быць самадзейным і сьвядомым, накіраваным на выражэньне нашых думак і пачуцьцяў.**

Калі вучань піша, трэба папяраджаць усялякія памылкі (каб не перастаўляў ці не прапускаў букваў і пад.). Хай піша марудна, абы заўсёды правільна. Навык хуткага пісьма прыйдзе сам сабою з працягам часу. Ніколі не дазваляць пісаць **друкаванымі** буквамі. Пісаць лепш чарчілам, як алавіком; пісаць у адным сшытку — на пачатку зусім без лінеек (абы толькі правільна схапіў фігуру буквы), пасьля па аднэй і між дзьвёма лінейкамі, пакуль ня зможа зусім абходзіцца без лінеек.

*С. ПАЎЛОВІЧ.*

# ПЕРШЫЯ ЗЕРНЯТКІ

**беларуская граматка для хатняга навучаньня.**

З многімі малюнкамі мастакоў — У. Паўлюкоўскага, Я. Драздовіча і М. Васілеўскага.

*Вучыся, нябожа!*
*Вучэньне паможа*
*Змагацца з нядоляй,*
*З няволяй...*
*Я. КУПАЛА.*

**Вільня, 1936.**

Выданьне Язэпа Малецкага.

а  ам...ам...

м мама

у  му...му...

 уа...уа

а...а...а...

х  муха

ам...ам мама

ах...ах муху

а м у х

с  саха

сuха

р  рама

раса

мур 

о  о-хо-хо

мох сох

сом 

у руху муха | у мурох мох

с р о

ы  сыр
сыры

рама - рамы

рымар
рымары 

ш  мыш
мышы

у рымара
шоры
сушу сыры
мох

у мурох
мышы
мы сушым
сыры

ы

ш

л

шыла
мыла
сала



ласы
лысы
рыла



шуло

арол

н

нос-насы
нара-норы



рына
шына



машына

мама шыла | нашу салому
мама мыла | на шашы рух

л

н

# П К



лапа
паша
пах



каса
кара
кума

лапух

аполак

капа-копы

каса-косы



шашок

пух кош колас

пушок кошык каласок

камар малы
шашок
у нары

рак у нары
у лапуху
рапуха



# аА уУ хХ оО мМ сС рР
# ыЫ шШ лЛ нН пП кК

**лапа шашок рама нара**

**лапка шышка крама норка**

**Рынак у Крынках. На рынку крамы. У крамах косы, колы, скуры.**

**У нас Шарык. Шарык ласы на малако. У нас малака мала.**

муха хмара раса

мушка хмарка краса

Мурка хмурна краска



Наш шнур малы.
У копах снапы.
Параска
калыхала
калыску.

Кроп рос на
сонку.
Наш услон
у Сымона.
У нары шорах
мышы.

А У Х О М С Р

Ы Ш Л Н П К

**т**

**Т**



**кот**
**котка**
**маток**

| | | |
|---|---|---|
| **хата** | **кут** | **рот** |
| **хатка** | **куст** | **крот** |
| **хутка** | **пуста** | **шрот** |



**Крот у нары.**

**У катуху куры.**
**Куры на таку.**
**На таку акалот.**
**Мурка на плот,**
**птушка на хату.**

## Наша хата.

Тут наша хата, а тамака хата Тараса. Наста памыла стол, услон, карыта. Мама латала шапку, тата — хамут. Палашка шыла Астапку сшыток.

**т** **Т**

ж жук
Ж жур
жыта



нож-ножык
крыж-крыжык



жорны

кажух
рыжык

ложак жыта кажы сажа
лыжка пажытак скажы сажалка

Жонка Тамаша жала жыта. | Наста палола мак.

# Пастушок.

Малы Сымонка пас статак. На пастушку кажушок, шапка таты. У руках пруток, сумка, луста. Куртаты Жук пры Сымонку. Жук, служы!



ж Ж

**В** вуж



сава

вол лава



вока вушы варыва жывот



валока
валошка
варта
кварта

павук
плавук
крук
кроквы

**В**



Вожык ласы на вужы, на мышы.

У жука вусы.

У Жука хвост пушысты.

Мама шаравала вокны.

Варона кракала: кра...кра...

Карова пашла на атаву.

**в** **В**

з замок

зорка

З Захар

знахар



воз - вазы

мароз - маразы

музыка

матузок

Жыта зжата.

З - за хаты

вышла хмара.

Наста раззлавала Захарку.

У разорах

расла трава.

## Каза.

Высока вырасла лаза. Прышла каза. Каза шмат папсавала лазы. Лаза засохла.

Малако казы карысна хвораму на сухоты.



## Казка.

Мама казала казку. Прузынка слухала казку. Потым Прузынка заснула.

з З

Д дом
дым
дошка

Д Дружок



Сад - сады
жалуд - жалуды
суд - суды
малады
маладуха

дуда вуда молат
дудка вудка малады



дрозд - дразды

Малы Тодар хворы. Мама паслала па доктара. Хутка Тодар здаровы. У школу аддала мама Тодара.

Д Д

# Котка.

Украла котка сала. Мама за пруток, ды на котку. Котка на вакно, з вакна на двор, са двара на дом. Там прапала.

ПРЫКАЗКА. У холад кожны молад.

г гарод
гарох
Г Ганка



загон
выган
курган

| | | |
|---|---|---|
| луг | стог | нага |
| лужок | стажок | ножка |
| гудок | гурок | воз |
| грудок | гурток | гвозд |

Агата вышла на ганак. У руках Агаты гладышка, два саганы. Агата мыла.

# Наша гаспадарка.

Хата. Панадворак. Гумно. Каштанка. Курта. Падласка му—му—му... Гуска го—го—го... Куры ко—ко—ко...

За садам гарод. За гародам выган, а там шнуры. На шнурох груганы.

б боты
бок
баба
Б Бобка



зуб - зубы
дуб - дубы
голуб-галубы
скарб-скарбы

зубр - зубры



**У зубра грубы лоб, такжа горб.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| рама | друк | званок | буква |
| брама | брук | збанок | бруква |

**т Т ж Ж в В з З д Д г Г б Б**

**хутка марка трава скарынка**
**хустка морква страва скрынка**
**пастка**

**шпак**
**шустры**





**каршун страшны**

**Жж** На раздарожжы, па-за крыжам была хата Кандрата. Ззаду хаты — дарога на Масты.

**Сс** Крыстына рассыпала збожжа на таку, каб высахла.

**Нн** Ганна палажыла соннага Лукаша на ложак.



## Плотка.

Наш ставок багаты на рыбу. У рыбака вуда. Папала рыбаку плотка на вуду. Рыбак рады. Ажно раптам плотка... бух у ваду. Рыбаку шкада.



# У Гарадку.

Рана рынак у Гарадку. Пашла мама з Бутрымам, Барбара. На Барбары новы андарак, нова хустка. Збожжа — на вазу Тамаша.

Пад Гарадком рака, праз раку мост, за мастом зараз сад.

Барбара прадала на рынку троху бобу, пуд капусты. Бутрым — троху жыта ды гароху.

**Ь**



**стол коска рунь**
**столь коська конь**

**вугол Волга кульбака**
**вуголь Вольга кульгавы**

**рысь**



**лось**



Карась, акунь, карп — рыбы.
Кузьма родны брат Карпа.

**І**



**гусі парог іржа**
**коні пірог ілжа**

**гоні насы імшары**
**вішні насі ігрушы**

Ліда і Трокі—гарады блізка Вільні. Гаспадары касілі віку. Бабы сушылі і граблі.

ПРЫКАЗКІ. Ні да складу, ні да ладу. — Ні мукі пылінкі, ні солі драбінкі, ні пітва расінкі.

**Ч ч** 

**чарот пугач**
**чарапок рагач**
**чупрына дубчык**
**чачотка ануча**

**ка-ч-ка**
**га-ч-ка**
**ты-ч-ка**

Чабор пахучы.
Рыжык чырвоны.
Бондары набівалі
абручамі бочкі.
Жук чорны, Рабка
— рабы.

Піншчыну і Полач-
чыну злучыла
чыгунка.
У пушчы шмат суч-
ча, ламачча.
У Наваградку на га-
ры замчышча.

**Горан чорны.** 

**Хрушч руды.** 

ПРЫКАЗКІ. Тады пабачыш, калі заплачаш. — Чоран мак, ды смачан. — Грозны рак, ды ззаду вочы.

**е**



**Е**

| | | |
|---|---|---|
| **сена** | **рубель** | **белы-** |
| | | **Бельск** |
| **серп** | **чмель** | **пералез-** |
| **аер** | **певень** | **пералаз** |

Беларусь ад веку краіна беларуса.




Беларус ад веку не пакідае роднага кута, хаты, лесу, роднага палетку.

Нашы музыкі: Ігнат—бубен, Міхась — скрыпка, Колька — гармонь.

# Сваты.

У суседа летась былі сваты. У іх праз плечы ручнікі. Іх добра частавалі.

Праз год Антолька пашла замуж за Хведара Ткача.

| | | | |
|---|---|---|---|
| **ц** | **цапы** | **хлапец** | **біць** |
| | **цыган** | **шавец** | **біцца** |
| | **цыркун** | **кравец** | **цацка** |
| **Ц** | **Ціхан** | **дубец** | **цацкацца** |

**Плаксун-трава на непагоду выпускае на лісточках капачкі вады быццам раса, на пагоду — зусім не выпускае.**



**Мірскі замак.**

Полацак — старажытны горад беларускі, — таксама Віцебск, Слуцак, Пінск, Менск, Клецк, Мір.

Чыста мыцца!
У школу не спазьніцца!
Чыста пісаць!
Кніжкі не мараць.

ПРЫКАЗКА. У Цімошкі хлеба трошкі.

э

Э



| | | |
|---|---|---|
| рэпа | гарэх | дурэць |
| рэха | шэры | дрэнна |
| дрэва | мэтр | цэлы |
| эканом | трэска | Зарэчча |

гарэх - гарох

рака - рэчка, грыка - грэчка

Пах бэзу вельмі прыемны.

Без пары не пары.

Рэчка срэбрам блішчэла на сонцы.
Цэгла робіцца з гліны на цагельні.
Пракоп Чэшун родам з Дарэчына.
Рэжыца і Рэчыца—гарады на Беларусі.

Міхась Чарот і Міхась Машара — паэты, пішуць вершы.

| Уперад праца, а тады забава. |
|---|

ЗАГАДКА. Чырвоны колер, вінны смак, каменнае сэрца — што гэта так?

ПРЫКАЗКА. Дурны сабака і на гаспадара брэшэць.

**Й**

**гаі-гай**
**раі-рой**
**гнаі-гной**
**шыі-шый**



**мой-май**
**дай-сей**
**хвойка**
**вулей**

**краіна - край**

**паіць - пойла, намітка - наймітка**

Беларусь — мой родны край! — Беларусь там, дзе наша мова жывець.

Сонейка прыгрэе — стары Андрэй вылазіць на прызбу і піпку курыць.

Дружна з ахвотай,
Гэй, за работу!
Весела і хутка
Сойдзе нам час.

ЗАГАДКА. Стаіць гай, пад гаем мігай, пад мігаем сапай, пад сапаем хапай.

ПРЫКАЗКІ. За дурной галавой і нагам непакой. — Працуй да поту і еш у ваxоту. — Птушачка і мушачкай сыта. — Больш думай, менш гавары.

**Я** **ягня**
**яма**
**Я** **ягады**
**Якім**



**лямеш** **Янук**
**зерня** **Марыся**
**зямля** **Пярэста**
**жняя** **Дняпро**

**венік** **ветрык** **палена** **блыха**
**вянок** **вятрак** **палянка** **бляха**

„Новая зямля“ Якуба Коласа—вялікая беларуская поэма, напісаная вершам.

У кузьні для каваля патрэбны горан, паддувала, калода з кавадлам, малаты, абцугі, цэбар з вадой і іншыя прылады.

Куранятак кормяць крышаным яйцом, потым зярняткамі.

Ґэй, Міколка! Гэй, Арынка!
Ґодзе байбусам гуляць.
За навуку памаленьку
Трэба разам згодна стаць.

Калышыцца жыта,
радамі бяжыць,
плыве бязустанку
і ціха шуміць.

ЗАГАДКІ. Стаяць вілы, на вілах кадлуб, на кадлубе мігайла, на мігайлі маргайла, на маргайлі густы ельнік.

ПРЫКАЗКІ. Свая сярмяжка нікому не цяжка. — Каб ня ежка, не адзежка, дык была-бы грошай дзежка. — У лені баляць калені. — Спас — усяму час. — Ня шумі муха каля вуха.

ю  юшка ключ Юры

юргіня кацюба Юрка

Ю уюн казюлька Юлька

люлька цюцька капялюш Юстын

Кастрычнік ходзіць па краю і гоніць птушак з гаю. Шуляк мае вялікія капцюры.

Усюды люлька спадарожнічае нашаму селяніну.

Я кожнага дня мыю шыю халоднаю вадою.

ПРЫКАЗКІ. Тады маю, як у руках трымаю. Юры пасьвіць каровы, а Мікола — коні.





# Талакою.

Беларус ахвотна дапаможа свайму суседу працаю, калі здарыцца бяда якая — хвароба ці пажар. Трэба прывязьці зруб






на хату — усе грамадою едуць у лес. Трэба каму скасіць сенажаць — усе выходзяць з косамі і косяць. Трэба каму зжаць дасьпелае жыта — бабы з усяго сяла йдуць і жнуць. Такая дапамога завецца талакою.

З міру па нітцы — голаму рубашка.

---

## ё сяло-прысёлак, гняздо-гнёзды

пень-пянёк-апёнкі

Ё

| | | |
|---|---|---|
| ёрш | калёсы | кацянё - кацяняты |
| лёд | жывёла | шчанё - шчаняты |
| клён | хваёвы | мышанё - мышаняты |

Беларусь багатая на лес, рыбу, лён, мёд і рознае збожжа.

Усё на полі сёлета добрае: і жыта ядраное, і ячмень-вусач, і авёс-лахмач.

На Беларусі ёсьць шмат вёсак на імя: Навасёлкі, Ляхавічы, Агароднікі, Зарэчча і іншыя.

А што чорна не чарнёна? А што сіне ня сінёна? А што бела не бялёна?—Чоран воран не чарнёны, сіне мора ня сінёна, а бел лебедзь не бялёны.

ЗАГАДКІ. Стаіць Рыгор паміж гор, кіямі падпёршыся. — Раве вол на сем сёл. — Летам ёлка, а зімою цёлка.

ПРЫКАЗКА. На губах мёд, а у сэрцы — лёд. — Есьць за вала, робіць за камара.

---

**ф** **фабрыка** **афіцэр** **фрукты**

**фасоля** **шуфаль** **фатаграфія**

**Ф** **фэльчар** **куфар** **Мітрафан**

Фабрыкі вырабляюць паперу, сукно, палатно, панчохі, хусткі, тытун, сернікі, фанеру і іншыя рэчы. Фанера або дыхта йдзе на шафы, куфры, шуфляды. Бацька служыць у фальварку.

Футры шыюць са скуры ліса, тхара, вавёркі.

Фабрычнае палатно прыгажэйшае ад хатняга, але не такое моцнае.



Прагулі фабрычныя гудкі. Задымілі коміны. Гудуць машыны. Круцяцца колы. Шастаюць пасы. Зьвініць паветра. Напружаны постаці рабочых. Твары іх пылаюць агнём. Льецца пот з іх руччом.

ПРЫКАЗКІ. Як улез у дугу, не кажы „не магу“.

**Ў** роў каўнер сяўба дрэўца
кроў каўбаса ляўша жэўжык
воўк аўчына дзяўчына шалёўка

Беларусь—наша Бацькаўшчына. Сваю родную мову мы любім больш за ўсе мовы на сьвеце. Усе беларусы, дзе-б яны ні жылі—нашы родныя браты. Беларусь мае слаўную мінуўшчыну.

# Шаулічы.

Мы ўехалі ў Шаулічы, пад самым Ваўкавыскам. Вёска двароў дваццаць. Жыхары — беларусы. Жывуць ад сахі. Недалёка ад Шаулічаў у лесе ёсьць старое замчышча. Самы лес назваўся ад яго „Замкавым“.

У садочку,
у халадочку
дзеці весела гулялі;
хаткі з жоўтага пясочку
лялькам будавалі.

На ўсходзе неба грае
дзіўным блескам жару,
залацісты сноп купае
ў полымі пажару.

ЗАГАДКА. Маю рогі, маю ногі; як багаты, так убогі ля мяне ўсе сядаюць, — дык скажы, як называюць.

ПРЫКАЗКА. Калі ёсьць у мяшку, будзе і ў гаршку.



Зялёны луг, як скінуць вокам,
абрусам пышным і шырокім
абапал Нёмна расьцілаўся...
. . . . . . . . . . . . .
На дубох, як шапкі тыя,
чарнеюць гнёзды бусьляныя.
Буслы клякочуць, бусьляняты
пішчаць жалобна, як шчаняты:
насы закідваюць угору
і просяць есьці ў сваю пору.

З „Новае зямлі“ Я. Коласа.

Якуб Колас — сын палясоўшчыка з вёскі Мікалаеўшчыны ў Стаўпеччыне. Радзіўся 22 кастрычніка 1882 году. У тымжа годзе радзіўся і другі беларускі паэт Янка Купала. Яго бацькаўшчына — фальварак Вязынка, недалёка ад Радашкавічаў.

В ё с к і —

Ельцаўшчына (в. Нізяны) і Вялікія Грынкі
ў Ваўкавышчыне,
Кожава і Ярэмічы
ў Стаўпеччыне,
Будслаў і Жодзішкі
ў Вялейшчыне,
Нягневічы і Шчорсы
ў Наваградчыне,
Пяшчанікі і Тапілец
ў Беласточчыне —

маюць культурна-асьветныя гурткі, народныя бібліятэкі, аркестры, хоры, тэатры, у якіх ладзілі і зараз ладзяць беларускія прадстаўленьні і канцэрты.

---

**ДЗ** Годзе табе бібікі біць, — казаў бацька. Ці не пара ў школу хадзіць? — Багаты дзівіцца, чым худак жывіцца.

**ДЖ** ЗАГАДКА. Адзін гарэ, другі сядзіць на гарэ: ураджай папалам дзелюць.

**ЖДЖ** Раса з вечара — ня будзе заўтра дажджу.

**ЗЬ** Зьбіраць каляду ходзяць са зьвяздой і казой.

**ЗЬЗ** Зазьзялі зоры ў небе.
Колы мажуць каламазьзю.

Надзьмуўся, як мыш на крупы.

**ДЗЬ** Дзьвіна — рака на поўначы Беларусі.

Барзьдзюк або хвошч ядуць

**ЗЬДЗ** толькі коні, — каровы не ядуць.

Барбара масьціць, а Мікола гвазьдзіць.

**ДЗЬДЗ** Жэрдзьдзю ўціскаюць сена на калёсах. Як памёр гаспадар, у хаце пайшло бязладзьдзе.

---

## ХВОРЫ МЯДЗЬВЕДЗЬ (БЫЛЬ).

Шэсьць цыганоў, з вялікімі кіямі, прывялі ў бальніцу для зьвяроў вялікага бурага мядзьвядзя. Яго надта доўга мучыў кашаль. Аднак у бальніцы да доктара не дайшлі. Санітар даў мядзьвядзю з рукі цукру, зьмешанага з якімсьці парашком. Мядзьведзь зьеў, запіў вадой, аблізаўся сам, аблізаў — у падзяку — руку санітара і пайшоў зусім заспакоены.

ПРЫКАЗКА. Мядзьведзь скачэць, а цыган грошы бярэць.

**ЛЬЛ** Дождж льле як з луба. Вільня стаіць на Вяльлі. Люблю я прыволь-ле зялёных палёў. Ільля наробіць гнільля.

**НЬН** У сялянскай хаце рэдка можна спаткаць гадзіньнік, — жывуць па сонцу. Конь каню, а сьвіньня калу

**СЬ** таварыш. „Здаравейце“—кажуць у нас пры разьвітаньні.

**СЬС** Котцы жартушкі, а мышцы сьмерць на вуме. Пружаны і Пінск на Палесьсі.

**СЬЦ** Дзякуем за хлеб, за соль, за ка-шу, дый за міласьць вашу.

Не цьвіце яблыня раней йгрушы,

**ЦЬЦ** ні язьмін раней бэзу.

На вуліцу сьмяцьця не выносяць.

# В у ж.

На Палесьсі водзіцца шмат вужоў. Вужы ня ку-саюць. Вужа можна ўзяць у рукі. Вужы не баяцца людзей. У аднаго лясьніка вужы лазілі ўсюды па ха-це — і на печку, і ў гаршкі, і на паліцы. Дзеці ма-лыя ядуць малако — вужы падпаўзаюць і пачынаюць есьці з імі. Дзеці лыжкамі па лобе — тыя нічога, не адбіваюцца, не кусаюць.

Каб паказаць што літары б, д, м, п, р трэба выгаварваць цьвёрда, а не мякка, пасьля іх ставіцца знак ’ (апостроф) —

| б’ | д’ | м’ | п’ | р’ |
|---|---|---|---|---|
| аб’едкі | ад’езд | сям’я | п’е | Мар’я |
| аб’ежчык | пад’яжджаць | раздум’е | п’яны | узгор’е |
| зрэб’е | пад’есьці | Дзям’ян | п’яўка | Забор’е |

але ў словах:

абедаць, зьезд, Лукьян і іншых — ня трэба ’ (апострофа).

Усе мы з гэтага краю так званыя „тутэйшыя“ — беларусы, бо нас аб’еднывае мова беларуская.

Цяжка птушцы ў няволі. Лётае, бедная, па клетцы, б’ецца галоўкаю аб краты — каб толькі вырвацца на волю. Але надарэмна: б’ецца, б’ецца, пакуль не заб’ецца да сьмерці.

Ня я б’ю, вярба б’е!
За тыдзень—Вялікдзень!
Будзь здароў, як вада,
а расьці, як вярба!
Будзь багат, як зямля,
будзь вясёл. як пчала!

ПРЫКАЗКІ. Ляжыць ніжэй вераб’я, устане — вышэй каня. — Хто сее ў лёд, той п’е мёд. — Гультай пад’еў, ды на бок.

## Скарочаныя словы:

| мо’ | на’т | трэ’ | шчэ’ |
|---|---|---|---|
| (можа быць) | (нават) | (трэба) | (яшчэ) |

Заяц у лесе баіцца ўсялякага шораху, на’т калі лісток упадзе з дрэва. — Лён трэба абрабляць мо’ сорак разоў, адсюль слова „сарочка“. — Каб у садзе ці гародзе быў добры ўраджай, трэ’ іх добра даглядаць. — Шчэ’ сонейка не ўзыйшло, а мы былі ўжо ў лесе.

## Знакі прыпынку:

пункт (.) —

коска (,) —

пункт з коскай або пасрэднік (;) —

два пункты (:) —

працяжнік (—) — злучок (-) —

недаказ або многакроп’е (...) —

чужаслоў („....”) —

дужкі (....) —

пытальнік (?) —

клічнік (!) —

# Беларускія азбукі.

## ГРАЖДАНКА.

А Б В Г Д Е Ё Ж З І К Л М

Н О П Р С Т У Ў Ф Х Ц Ч Ш

Э Ю Я Ь Ы Й

## ЛАЦІНКА.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — E, e. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | W, w, V, v — B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

1 2 3 4 5 6 7 8 9 0

---



## Вясковыя дзеці.

Пусты ўлетку нашы сёлы.
Ўсе на полі за сярпом.
Толькі дзетак крык вясёлы
Льецца ў вуліцах руччом.

Вецер кудры іх цалуе,
Мые дождж іх бледны твар;
З імі сонейка жартуе
І цяпло ім шле як дар.

ЯКУБ КОЛАС.

## Wiaskowyja dzieci.

Pusty ŭletku našy sioły.
Ŭsie na poli za siarpom.
Tolki dzietak kryk wiasioły
Ljecca ŭ wulicach ruččom.

Wiecier kudry ich całuje,
Myje doždž ich bledny twar;
Z imi soniejka žartuje
I ciapło im šle, jak dar.

JAKUB KOŁAS.

PRYKAZKI. U kaho swaja matka, u taho hałoŭka hładka. Na woŭka pamoŭka, a miadźwiedź cicha biareć. Pad lažačuju kałodu i wada nie ciače. Woŭk sabaki nie baicca, ale źwiahi nia lubić. Chto časta koni mianiaje, u taho chamut hulaje.

ссс еее ооо

а А м М мама

с С х Х саха

о О р Р мох рос

у У муха у руху

Аса. Раса. Саха.

Мур. Хама. Рама.

ы У Хамы рамы.

ш Ш Шорах мышы.

н Н Наум малы.

л Л Лыса на шашы.

п П Пракоп скупы.

к К Крук на суку.

т Т Тытун сыры.

Раманка! У школу!

Апанас куры пас.

б Б бабa Бoйка

в В вароты Ворша

д Д дуда Давыд

г Г гурток Ганна

ж Ж жук Жук

з З зорка Захарка

і І іграшка Іван

ь Кастусь Вольга

ц Ц Цішка вучыцца.

Беларус гасцінны.

й Мой родны край!

е Е Елка йдзе на серніві.

ё Ё У Навасёлках радыё.

ч Ч М. Чарот - пісьменьнік.

э Э Электрыка — не газа.

я Я Я лётаў на аэраплане.

ю Ю Зязюля кукуе на Юр'е.

ф Ф Фабрычны тэлефон.

За вучонага двох нявучоных

даюць, і то не бяруць.

Беларусь — наша Бацькаў-
шчына. 1 2 3 4 5 6 7 8 9 0.

# Практыкаваньні ў пісьме.

## Напішэце:

*1) імя і прозьвішча сваё і сваіх родных і знаёмых, прыкладам:* Кастусь Буйка, Анеля Кісель...

*2) тыя-ж прозьвішчы паводле азбукі...*

*3) як называюцца вёскі, бліжэйшыя да вашай, прыкладам:* Запольле, Казлоўшчына...

*4) бліжэйшы горад, мястэчка, знаемыя вуліцы ў іх, фабрыкі, заводы, лесапілкі...*

*5) бліжэйшыя ці знаёмыя рэкі, вазёры, лясы, балоты, курганы...*

*6) якія рэчы ёсьць у вашай хаце і ў вашай гаспадарцы...*

*7) якія іменьні даюць у вас коням, каровам, авечкам, сабакам, катам...*



*Практыкаваньне:*

Напішы, што бачыш на малюнку.

---

**Далей пераходзьце да пісьма па кніжцы „Пішы самадзейна“.**

---

ПОРЫ ГОДУ: вясна, лета, восень, зіма.

КАЛЯНДАРНЫ ГОД МАЕ 12 МЕСЯЦАЎ або 52 ТЫДНІ.

НАЗОВЫ МЕСЯЦАЎ І ЛІК ДЗЁН У КОЖНЫМ МЕСЯЦЫ: студзень (31), люты (28 або 29), сакавік (31), красавік (30), травень (31), чэрвень (30), ліпень (31), жнівень (31), верасень (30), кастрычнік (31), лістапад (30), сьнежань (31).

ДНІ ТЫДНЯ: нядзеля, панядзелак, аўторак, серада, чацьвер, пятніца, субота.

ПЕРАМЕНЫ МЕСЯЦА: ☽ маладзік, ⊕ поўня, ☾ сход, ● ветах.

СТАРОНЫ СЬВЕТУ: усход, захад, поўнач, поўдзень.

---

СТАРЫ І НОВЫ КАЛЯНДАР або СТЫЛЬ. Розьніца між абодвыма каляндарамі складае 13 дзён. Стары адстае ад новага на 13 дзён. Каб стары стыль перавесьці на новы і наадварот, трэба да старога дадаць 13 або ад новага адкінуць 13. Напрыклад: калі па старому 2 траўня, дык па новаму ўжо 15 траўня. Калі па новаму 25 верасьня, дык па старому 12 верасьня.

Калі па старому йдзе адзін месяц, а па новаму пачаўся ўжо наступны, дык трэба да „старога“ дня дадаць 13 і ад сумы адняць толькі дзён, колькі іх ёсьць усяго ў „старым“ месяцы; таму 25 сьнежня па старому стылю будзе 7 студзеня па новаму (25+13=38—31=7). Наадварот: 13—7=6; 31 (сьнежня)—6=25.

# Чытанка для дзяцей

## Зімовыя забавы.



Не сядзіцца ў хаце
хлопчыку малому —
кліча яго рэчка,
цягнуць санкі з дому.

— Мамачка, галубка...
просіць ён так міла:
— можа-б ты на рэчку
пагуляць пусьціла?

Я ня буду доўга —
зараз-жа вярнуся;
трошачкі на рэчцы
ў санках паважуся.

— Ну, ідзі пабегай,
толькі апраніся,
ды глядзі—ў балонку,
сынку, не ўваліся.

## Дзедка — Мароз.

У вопратцы белай,
сьнежнай, даўгой,
з белай пушыстай
ён барадой, —

хутка прыйшоў к нам
Дзедка — Мароз;
холаду і сьнегу
шмат нам прынёс.

Ходзіць у полі,
сьнегам хрушчыць,
сіверы водзіць,
гучна трашчыць.

Дзеткі, выходзьце
дровы рубаць,
скончыўшы працу—
ў сьнежкі гуляць.

Я. ЖУРБА.

# Жучок.

Учапіўся Алесь за бацькам у лес, а за Алесем і яго дружок,—маленькі Жучок. Не паспявае Жучок за калёсамі. Алесь узяў яго да сябе, завярнуў у свой каптанік. Рады Жучок пад'ехаць: заглядае ў вочы, ліжа рукі свайго гаспадара.



У лесе Алесь памагае бацьку: то кару ці гальлё падбярэ, то каню сена падкіне. Адзін Жучок без працы. Бегае навакол, усё чагось шукае, абнюхвае кожны кусточак. Наскочыў на вожыка—пачаў круціцца, брэша, а ўзяць баіцца.



Назад Жучок ужо скакаў за возам. Толькі дзе-недзе Алесь возьме ды паднясе для адпачынку.

# Козьлік.

Шэранькі козьлік жыў у бабулькі,
быццам у роднай мілай матулькі.
Козьліка бабка дужа любіла,
у хатанцы цёплай вельмі пясьціла.
Красачкі, траўку, лісьцікі рвала,
козьліку часта ежу давала.
У сенцах на траўцы клаўся ён спаці,
часта ў садочак бегаў гуляці.

# Міколка.



Гаворыць гусь Міколцы:
—Як-бы табе памыцца трошкі.
Гаворыць Міколцы качка:
— На цябе глядзець страшна.
А сьвіньня ад сьмеху давіцца:
— Мне Міколка падабаецца.

## Гэта мы так гуляем.

Хто гэта так абдзёр цябе? — пытае бацька малога Паўлюка. Рукі абдзёртыя, на носе шрам... Ось і на шыі скрабіна...

Паўлючок маўчыць. Толькі бегаюць вочкі, як-бы шукаючы вінаватага. А ён тут! Бачыце? учапіўся пазурамі за коўдру і гойдаецца сабе...

Хвастаты Мурчык — першы прыяцель Паўлючка. Дзе адзін, там і другі. Сябры — проста вадой не разьліць.

— А ведаеш, Рыгор — кажа маці — каток дзярэ, а Паўлючок хоць-бы што? Маўчыць, ня плача. Усё яму выбачае. А няхай бульба ўпадзе з-пад носа, ці шапку дзе закінуў — зараз пачне на ўсю хату галасіць. Ледзь заспакоіш.

— Пэўна, ты яго за хвост цягаеш ці за жыватох цісьнеш? — зноў пытаецца бацька Паўлючка. Яму баліць, ось ён і дзярэ цябе.

— Не, татачка, — адгукнуўся Паўлючок. Я яму нічога не раблю. Гэта мы так гуляем.

— Добрыя гулянкі, -- кажа бацька. Гуляці гуляй, але каб гуляючы ён вочак табе не выдзер. Сьцеражыся, мой сыночак!

Праз хвіліну Мурчык як уюн выкручваўся на каленях у Паўлючка.

# Мядзьведзь і жнейка
## (к а з к а).



Лета. Жніво. Жнея жне жыта на полі. Раптам — з лесу прэ мядзьведзь, чамусьці на трох лапах: чацьвертую нясе, падняўшы да гары. Бачыце — хадзіў Мішка касалапы па мёд і вось загнаў у нагу вялікую страмяку.



Жнейка, убачыўшы мядзьведзя, давай уцякаць. Але-ж мядзьведзь йдзе ды йдзе. Дагнаў жнейку і працягвае ёй хворую лапу. Жнейка сьцяміла, у чым тут справа, і адкінуўшы страх, выняла страмяку. Мішка аблізаўр ану і пайшоў...



але ня ў лес, а спачатку на вёску, зьняў вядро, якое сушылася на плоце, вярнуўся да знаёмага вулья, набраў поўнае вядро мёду і прыпёр жнейцы ў падзяку.

Вось была пацеха!

## Б а р а д а (гульня).

Цёпла ўлетку. Дзеці гуляюць у „бараду“. Барада — Пятрук ганяецца за сваімі сябрамі і сяброўкамі, як каршун за варонамі. Вось ён дагнаў Янку і ўдэрыў яго па плячу. Цяпер Янка — барада. Усе, як мага, уцякаюць ад яго. Янка — спрытны хлапец. Ён зараз-жа дагнаў Ганку.

— Барадзіха! Барадзіха! — дражнюць яе хлопцы. Ганка доўга не магла нікога злавіць, замарылася. Тады Пятрук нарокам паддаўся — пашкадаваў дзяўчынку.

Хутка напрыкрыла гэтая гульня. Селі дзеці на прызьбе і пачалі казаць казкі.

# К а л ы с к а.

Як паклікаў дзед Андрэй
калыхацца ўсіх дзяцей.
Дзеці раптам наляцелі,
на калыску разам селі.

Учапіліся за дошку
Грышка, Мішка ды Цімошка.
Не папалі Хлор ды Клім —
Некуды прыткнуцца ім.





Хлор і Клім пайшлі самі гойдацца.

# Настуліна гаспадарка.

Яшчэ сьпіць Настулька, а Мурзік ужо цягне лапкаю за Настуліну коўдру: „уставай, Настулька! котцы сваёй малачка давай“! — кажа Мурзік.

Выйшла Настулька на ганак — Бурчык ад радасьці ледзь з ног ня зьбіў малую: лапамі абнімае, языком ліжа, хвост як уюн. Як адкупіцца ад такое ласкі? Трэба скарыначкай хлеба пачаставаць Бурчыка.

— А мы чым горшыя ад Бурчыка? — кажуць чубатачкі і гусанькі, вітаючы сваю маладую гаспадыньку: го—го—го... ко—ко—ко... Дай зярнятак! дай зярнятак! Адныя гагаюць, другія сакочуць. Пайшла Настулька ў клець, узяла прыгоршчы ячменю ды аўса, насыпала сваім любым курачкам ды гускам.

У хлеўчыку стаіць цялушачка — таксама чакае сваю гаспадыньку. Настулька прыйшла, палашчыла, абняла, ручкай пагладзіла, паправіла пад ёй салому і пачаставала кавалачкам мяккага хлеба. Жаласьлівае: му—му!.. паняслося ў дагонку, калі Настулька, на кліч мамы, кінулася да хаты.

# В е р а б е й к а.



Вось прыйшлі зімовы сьцюжы,
на дварэ замерзьлі лужы.
Скача, скача верабей,
ён склікае ўсіх дзяцей.

Да дзяцей ён просьбу мае
і чырыкае, як знае:
ціў, ціў, ціў, ціў, ціў, ціў...
Дайце зёрнаў — я чуць жыў.

Есьці многа мне ня трэба:
трохі зёрнаў, трохі хлеба.
Кіньце, дзеткі, на зямлю,
я вам песеньку сьпяю:
ціў, ціў, ціў, ціў, ціў, ціў —
я вам песеньку сьпяю.

## Селянін і мядзьведзь
### (к а з к а).

Прыйшоў мядзьведзь да селяніна і кажа яму: „вазьмі мяне разам ральлю абрабляць“.



— „Добра,—кажа селянін. Чаму не? Будзеш памагаць у працы,



дык будзем разам і ўраджай дзяліць“.

Вось выйшлі яны сеяць пшаніцу. Селянін сее, мядзьведзь бaрануе. „Табе — кажа мядзьведзь—

будуць вяршкі, а мне карашкі". Селянін згадзіўся. Вырасла добрая пшаніца. Селянін нажаў шмат коп пшаніцы, а мядзьвядзю... якая-ж карысьць? — „Не, думае сабе мядзьведзь: больш ня дам сябе ашукаць".





Калі на другі год прыйшла пара сеяць рэпу, зноў мядзьведзь кажа селяніну: „цяпер ты, брат, бяры сабе карашкі, а я вазьму вяршкі". — „Добра, адказвае селянін. Як ты хочаш, хай так і будзе". Хутка селянін накапаў поўныя мяшкі рэпы, а мядзьвядзю зноў... якая-ж карысьць? Незадаволены пайшоў ён у лес і больш на ральлю працаваць не прыходзіў.



## На гаспадарцы.

У куце сядзіць мядзьведзік — хустку вышывае. А лісічка — невялічка хатку прыбірае. А каток пячэ аладкі, маслам залівае. Каля печы мышанятка кату памагае. А сабачка ўе вяроўку — пугу для хлапчыны. Бондар-дзяцел на начоўкі длубае асіну. Казёл лапці папраўляе, скуратом мацуе. А пад ложкам павучочак кросенцы майструе.

## Скарагаворка.

Ён жыве, яго нішто не бярэ. Семера варот, сена агарод, толькі і праходу, што хадзіць па воду.

# Нашы прыяцелі.



Му-у-у! — кароўка зараўла: —
з пашы я дамоў прыйшла.
Падыходзьце з дайнічком,
пачастую малачком;
дам па цэламу збанку
і дачушцы і сынку.

Конік сівы, як мага,
загігікаў: і-га-га!
Дзе хамут, аброць і воз?
Я-б вам сена стог прывёз,
зьверху дзетак пасадзіў,
усім адразу дагадзіў.



Сьвінка рохкае: — рох-рох!
Смачны параны гарох.
Пакармі мяне ляпей —
будзе скварачка тлусьцей,
а захочаш, калі лас,
мамка зробіць і каўбас.

Кошік мяўкае: — мяў-мяў!
Я ўсю ночку не драмаў:
каб вам спалася цішэй,
палавіў усіх мышэй.
Толькі мышка з норкі скок,
кіпцюрком яе за бок.

Слухай вушкамі, сынок,
мой маленькі пястунок:
трэ' жывёлінку любіць,
падаслаць і пакарміць, —
адпадзякуе дабром —
толькі будзь гаспадаром.

# З а д а ч к і.

. У хаце чатыры куткі; у кожным кутку сядзіць па катку; процiў кожнага ката сядзіць па тры каты. Колькі катоў у хаце?

II. Два бацькі, два сыны ды дзед з унукам. Колькі усіх?

# Жарт.



Вярнуўся гаспадар з гораду, прывёз свайму Васілёчку мядавік і кажа:

— На, Васілёк, падзяліся з Юлькаю, але па шчырасьці.

— Як гэта па шчырасьці?— пытаецца Васілёк.

— А так, сынку, — кажа бацька, — як пераломіш мядавік на двое, дык большую частку дай Юльцы, а меншую вазьмі сабе. Ось гэта і будзе па шчырасьці.

— То дайце, татачка, мядавік Юльцы, хай яна падзеліцца па шчырасьці са мною, — кажа хітры Васілёк.

# Калыханка.

У пячурцы коцік дрэмле,
ціха песенькі пяе:
— Сьпіце, дзеткі, сьпіце, любкі,
ночка ўжо да вас ідзе.
Цацкі ўсе ўжо паснулі —
лялькі, бубен і ваўчок.
Зайчык шэранькі схаваўся
аж пад лаўку ў куток.
Глядзяць зоркі ясна ў вокны,
на дварэ мароз трашчыць. —
Ходзіць ён з вялікім кіем,
ці заснулі ўсе — глядзіць.
Заўтра сам я ўстану рана,
вас паціху разбуджу.
*Сьпіце, заўтра новых казак*
*дужа многа раскажу.* —

# Беларусь і беларусы.



Мілая, родная старонка-маці!
Моцна цябе я і шчыра люблю, —
Бедныя ніўкі твае, сенажаці
І нешчасьлівую долю тваю.

**А. Гарун.**

## Родны Край.

О, мой родны край! Хмурна пазіраеш ты з сіняга туману, што лёг па краёх палёў, дзе неба, спусьціўшыся нізка, абнімаецца з беднаю зямлёй. Парэзалі цябе вузкія сялянскія дарогі, чорныя сьцежкі, рэкі і вазёры, лагчыны і балоты, лясы і горы. А бедныя вёскі і сёлы без усялякага парадку

параскідаліся то там, то сям па горах, лагчынах, на беразе рэчак, сярод далёкага поля, па цёмных лясох. Пакрывіліся хаты, абвісьлі стрэхі на гумнах, сінія купіны моху таўстою карою ляглі на гнілых саламяных стрэхах. Зьбіўся ў кучу будынак. Распаўзьліся на полі, як чэрві ў нягоду, бедныя мужыцкія хаты. Навалены ў кучу бярвеньні, стружкі, салома. Дзе-ня-дзе гляне нудная вярбіна, блісьне бярэзіна, выскачыць клён. Як нявесела, як непрытульна пазіраеш ты, мужыцкая вёска, сірата між людзкой бядоты.



А поруч з убогімі людзкімі будынкамі ўпёрліся ў неба высокія палацы, зеляненюць сады, ломяць гальлё яблыкі і грушы, — шырака раскідаліся багатыя нівы, пасуцца сытыя коні ды валы-рагалі, ды тысячы авец рассыпаюцца па полі...

О, мой родны край! Поруч з галітою ходзіць роскаш і багацьце; разам з людзкімі сьлязьмі льюцца вясёлыя галасы песень, грыміць музыка з раскошнага саду.

Толькі нудныя песьні твае, Беларусь, хапаюць за сэрца, жалобяць душу, туманяць вочы сьлязьмі, плачуць і стогнуць і горкаю ўпекаю, ціхаю скаргаю плывуць па далёкаму, няведамаму, сінему, спакойнаму небу. **Я. Колас.**

## Беларуская зямліца.

Беларуская зямліца
мяне ўзгадавала,
маці ў моее беларускай
песьні мне сьпявала.

Гэта мова і край родны
над усё мне мілы:
не магу іх адчурацца
да самай магілы.

Не магу іх адчурацца,
як рукі, як вока,
няхай слава Беларусі
плыве ў сьвет шырока!



## Вясковая хатка.

Стрэшка саламяная
мохам парасла.
У вокнах алавяная
мучыцца туга.
Шыбы дык пабітыя
летам і зімой.

Дзіры іх прыкрытыя
вопраткай старой...
Ды хляўцы з паветкаю,
на ўзбоччы клецьь.
Усюды беднасьць сьведкаю,
як мужык жывець.

Хатачка вясковая,
матка беднаты,
цесная, убогая,
чым мне люба ты?

**М. Машара.**

## Славяне.

Беларусы гавораць пабеларуску, палякі папольску, украінцы паукраінску, расейцы парасейску. Усе гэтыя мовы называюцца **славянскімі.**

Некалі продкі беларусаў, расейцаў, палякоў, украінцаў, чэхаў, сэрбаў, баўгараў і іншых славянскіх народаў мелі адну мову супольную. Але з працягам часу, калі славяне расьсяліліся па розных краінах, гэтая адзіная мова падзялілася на мовы славянаў усходніх, заходніх і паўдзённых.

Беларуская мова належыць да ўсходняе групы славянскіх моваў, таму і мае найбольш супольнага з моваю расейскаю і ўкраінскаю, бо і Расея і Украіна, як і Беларусь, знаходзяцца на ўсходзе Эўропы.

Польская мова і чэская належаць да заходніх славянскіх моваў.

Сэрбская, баўгарская, харвацкая належаць да паўднёвых славянскіх моваў.

---



Цёмны бор, кусты, балоты,
кучы лоз і дубняку,
рэчкі, купіны, чароты,
мора траў і хмызьняку.



Мосьцік, зложаны з бярвеньняў,
брод і грэбля кожны крок;
на дарозе рад карэньняў, —
крыж, пахілены на бок.

Пералескі, лес, палянка,
старасьвецкі дуб з жарлом,
хвоя — веліч на кургане
з чорным буславым гняздом...

Гразь, пяскі; лужок зялёны;
шум крынічкі з-пад карча,
шэлест лісьцяў нескончоны,
крык у небе крумкача.

Верба, груша — сіраціна,
нізкарослы цёмны гай...
Гэта ты, балот краіна!
Гэта ты, палескі край! **Я. Колас.**

# Беларусь у далёкай мінуўшчыне.

Беларусы ведамы ўжо больш як тысячу гадоў.

Славянскія пляменьні, якія ўвайшлі ў склад беларускага народу, былі блізкія між сабою моваю, звычаямі і ўсім укладам жыцьця. Найвялікшым з гэтых пляменьняў было **племя крывіцкае**. Адсюль паходзіць даўнейшы назоў для мовы беларускай, як мовы „крывіцкай".

Тады (IX XII век) зямля беларуская была падзелена на воласьці або князьствы, на чале якіх стаялі князі. Полацкае князьства, са сталіцаю ў Полацку, было наймагутнейшым. Каля яго, захоўваючы больш-менш сваю самастойнасьць, зьбіраліся ці гуртаваліся драбнейшыя князьствы, як-то: Смаленскае, Тураўскае, Віцебскае, Слуцкае, Пінскае, Наваградзкае, Мсьціслаўскае, Нясьвіскае, Мазырскае, Менскае, Друцкае, Сьвіслацкае і др.



Абаронны замак з XIII-га стагодзьдзя.

У XIII стагодзьдзі беларускія пляменьні пачынаюць злучацца з літвінамі. Будуецца **Вялікае Князьства Літоўска-Беларускае,** у якім кіруе гаспадар — вялікі князь літвін, а пануе культура і мова заняпаўшае Полаччыны. Беларуская мова ў новым гаспадарстве была моваю дзяржаўнаю:

ёю пісаліся законы і распараджэньні ўладаў; беларускаю ці — як тады яна называлася — „рускаю“ моваю карысталіся і ў школе, і ў войску, і ў судзе, і ў гандлі.

У той час Беларусь была багатаю і слаўнаю краінаю. Гаспадары ці купцы з Беларусі вазілі хлеб і ўсялякае дабро ў далёкія замежныя краіны. Беларускія мастакі будавалі ў краі і заграніцай раскошныя замкі і палацы, цэрквы і касьцёлы. Беларускія друкары друкавалі кнігі — і на сваей Бацькаўшчыне і на чужыне — і пашыралі іх у розных краінах. Ад беларусаў навучыліся друкарства расейцы і украінцы. Усюды быў парадак, дабрабыт і слава Беларусі.



У старыну Беларус непадданы  
гаспадарыў, быў сам над сабою,  
і далёка у сьвеце быў знаны  
за літоўскай і ляшскай зямлёю.  
Але час прамінуў, і нядоля  
на народ як-бы камень звалілась:  
беларуская слава і воля  
адыйшла, адцьвіла, закацілась.

Заняпад Беларусі пачаўся з канца XVI стагодзьдзя. Паўстала вялікая пагроза ня толькі для беларускае мовы і культуры, але і для самага існаваньня беларускага народу. Але ёнператрываў гэтае ліхалецьце, і ў няволі і прыгнечаньні захаваў свой найдаражэйшы скарб - мову, якою мы і сяньня гаворым.

Захаваньне роднае мовы ёсьць парукаю лепшае долі і адраджэньня беларускага народу.

Дык шануй, Беларус, сваю мову,—  
гэта—скарб наш на вечныя годы.  
За пашану радзімаму слову  
ушануюць нас брацьця — народы.

**А. Гарун.**

# Мой край.

Люблю цябе, мой край радзімы,
мой бедны Беларускі край!
Люблю твае балоты з мохам,
люблю бярозавы твой гай.



Люблю тваю страху з саломы
і песьню жаўранка вясной:
люблю, як вецер буйны вые
уночы лютаю зімой.

Люблю цябе ва ўсяку пору —
твой лес, і рэчкі, і зямлю,
тваё жыцьцё, нядолю, долю
і песьню сумную тваю.

# Беларусы і іх жыцьцё.

Нас беларусаў усяго ёсьць больш як 10 мільёнаў. Найбольш беларусаў жыве ва Усходняй Беларусі, потым у Польшчы, дзе нас польская статыстыканалічвае 1.600.000, паводле самых беларусаў — налічваецца прыблізна два

з палавінаю мільёны. Рэшта беларусаў жыве ў Латвіі і Літве, разам з латышамі і літвінамі. Шмат беларусаў, шукаючы працы, выехала з Бацькаўшчыны і жыве па-за межамі нашае зямлі. Усіх беларусаў налічваюць больш за дзесяць мільёнаў.



Зямля на Беларусі мясцамі добрая, ураджайная, мясцамі камяністая, балоцістая. Найлепш родзіць жыта, пшаніца, лён, бульба, буракі.

Лесу і вады на Беларусі шмат. Ёсьць вялізарныя пушчы (Белавеская, Налібоцкая), багатыя на дрэва і зьвярыну. Ёсьць шмат вазёраў (Нарач) і рэкаў вялікіх і малых, багатых на рыбу. З-паміж рэкаў найвялікшыя: Дзьвіна на поўначы, Нёман у сярэдняй частцы Беларусі і Дняпро на ўсходзе, з прытокам Прыпяцьцю на паўдні.



Большасьць беларусаў жыве з гаспадаркі. Некаторыя — хто ня мае зямлі — працуюць на чыгунках, рамесьнікамі, батракамі ў памешчыкаў і т. п.



Жывецца нашым людзям на вёсцы цяжка. Мала маюць зямлі і незаўсёды ўмеюць гэту зямлю найлепш выкарыстаць. [redacted] йдзе цяпер расьсяленьне на хутары. Вёскі мала-памалу зьнікаюць.

Беларусы ў працягу трох апошніх сталецьцяў былі адсунуты ад асьветы, — гэтым тлумачыцца, чаму цяцер у нас столькі бяды і цемнаты.

Асьвета здабываецца праз школы, кніжкі, курсы, самаадукацыю. Шырока выйсьці на гэты шлях павінна перадусім беларуская моладзь.

# У хаце.

На палку, у кутку, ля пячы
матка хворая ляжыць.
Ля яе пакрыта нечым
дзіцянё ў калысцы сьпіць.

Ля палка стаіць другое,
У дзюравым каптане...
Сыра ў хаце... Пахне гноем,
грыбам плесьні на сьцяне.

Печ, замурзана ў сажу,
шчэрыць свой бяззубы рот.
На прылаўцы з міскі кашу
даядае смачна кот.

Каля печы па далоўю,
парасё і стада кур.
У вокны бітыя з надвор'ю,
заглядзеўся гурбаў мур.

Дзе ні глянеш—пуста, гола.
Дзе ні глянеш—бруду шмат.
Ў нашых вёсках, ў нашых сёлах
знайдзеш многа такіх хат.

**М. Машара** („На сонечны бераг", 1934 г.).

# НАШЫ ПЕСЬНІ.

Кожны народ мае свае песьні.

Асабліва многа песень мае Беларускі Народ.

Праз усё жыцьцё ідзе з беларусам яго прыгожая песьня. Яшчэ над калыскаю мама пяяла дзіцяці:

— Люлі, люлі, люленькі,
Прыляцелі гуленькі,
Сталі яны гуркатаць,
Дзіцятачка калыхаць.
Як паеду у мястэчка,
куплю яму калысачку.
Куплю яму калысачку
І павешу у садочку;
Будзе вятрэц павяваці,
Майго сынка калыхаці,—
Будуць зязюлькі кукаваці,
Майго сынка забаўляці.



Вырасла дзіця, пайшло ў поле за статкам. І там чуе песьню:

Ой ляцелі жураўлі
Ды паселі на ральлі.
Пытаецца журавель
Да свае журавушкі:
— Журавушка, ты мая,
Яка лепшая ральля?
— Ой на раньняй, на ральлі
Родзіць жыта, пшаніца,
А на позьняй, на ральлі
Родзіць куколь, мятліца.

Маладая дзяўчына цэлы дзень жала жыта. Моцна ўтамілася. Вечарам ідзе дамоў і разам з падружкамі пяе звонкую песьню:

Ой гукну я дарогаю,
Зялёнай дуброваю.
Няхай мяне маці чуе,
Мне вячэру гатуе:
Вячэру мне смачненькую,
Пасьцельку беленькую.

Як ня будзе гатаваці,
Ня прыду начаваці, —
Начавацім ў цёмным лесе,
Пры зялёным гарэсе;
Начавацім ў чыстым полі,
Пры зялёнай дуброві.

А вось прыйшла пара вясельле спраўляць. Колькі там сьпеву і танцаў! На кожным шагу для маладых і сватоў ёсьць песьня. Калі ўсё прыгатавана, каб вязьці маладую, тады дзяўчаты заліваюцца сваімі звонкімі галасамі:

Ой у сітнічку, у ракітнічку,
Там чорны воран крача:
—Ня йдзі, Ганначка, маладзенькая,
Бо твой бацюхна плача.
—Ой няхай плача, з кім сабе хоча,—
Я яму адрабіла, —
Ой там у клуні дый на старонцы
Грабелькі палажыла.

Прыходзіць зіма, каляды. Тут ёсьць свае песьні — калядныя. Таксама вясна мае — вясьняныя, а Вялікдзень — валачобныя. Валачобныя песьні пяюць хлопцы і дзяўчаты, каля вокан і па хатах. Пяюць для гаспадара і гаспадыні, або для іхных дзяцей.



Многа песень мае Беларускі Народ. Песьні прыгожыя: вясёлыя і сумныя, скочныя і працяжныя, жартаўлівыя і сурёзныя. Мы павінны любіць і шанаваць сваю песьню так, як і сваю мову. Тады будзем жыць вечна, уроўні з іншымі народамі, і нас ніхто не пераможа. **Р. Ш.**

---

## Будучыня.

Кіпіць работа, плыве пот,
і крык і гул, як гром;
туды-сюды снуе народ:
будуюць новы дом.
Лапаты рэжуць глыб зямлі,
зьвініць сталёвы лом:
на месцы даўнай старыны
будуюць новы дом.

Штодзень угору сьцены йдуць,
ушыр і ўдоўж кругом,
баліць мазоль і рвецца грудзь,
а ўсё-ж будуюць дом!
Настане дзень, надойдзе час,
мы крэпку столь зьвядзём,
і лепшай будучыняй для нас
быць мусіць новы дом.

Працуйма-ж, брацьця! Хай хутчэй
наш льецца пот цурком:
прыжджом і мы сьвятлейшых дней,
як скончым строіць дом.

**Галубок.**

# Прырода і праца на Беларусі.



## Восень.

Пуста ў лузе. Толькі стогі
парыжэўшыя стаяць,
ды шпакі каля дарогі
цэлы дзень, адно, крычаць.

Грэчка зжата. Гола ў полі.
Жыта зьвезена даўно.
Толькі плаваюць на волі
кучы хмар, як валакно.

Дождждык сее беспрастанку:
Вецер сьвішча так, як зьвер...
Колькі лужын каля ганку!
А гразі, гразі цяпер!..

Ссохлі травы. Ўсё павяла.
Слоць, плюхота, холад, цьма...
Эх, скарэй бы закрывала
зямлю чорную зіма!

**Я. Колас.**

## Жураўлі.



Жаласныя крыкі
льюцца над зямлёю
і чапаюць сэрца
жалем і сьлязою.

Ў безграничным небе
роўненькім шнурочкам
жураўлі у вырай
цягнуць над лясочкам.

**Народная прымета.** Жураўлі нізка — зіма блізка; жураўлі высока — зіма далёка.

## У вырай.



Ідзе зіма. Сьцюдзена. Усё пакрыецца сьнегам. Чым маленечкім птушачкам пакарміцца? Добра дзятлу: сваім доўгім носам ён выдзяўбе з-пад кары і вусеня якога і чарвячка. Не бядуе і курапатка: у лесе шмат усялякага насеньня і засохшых ягадаў. А для вераб‘я або гіля і зусім ніякага страху няма. Ён заўсёды знойдзе пажыву каля хлеву ці гумна. Ён табе і ў сені ўляціць, і нават у хату. Дый і дзеці пакормяць іншы раз зярняткамі.



Зусім інакш чуюцца перад зімой ластаўкі, жаўранкі, валасянкі, малінаўкі, шпакі: бо няма ні мушак, ні казюлек, ні чарвячкоў, якімі яны жывяцца. Або буслы, жураўлі, дзікія гусі, качкі — для іх няма ні жаб, ні вужакаў, ні сьлімакоў. Усё пахавалася ў муле, пад карэньнямі дрэў.

Таму і адлятаюць нашыя птушкі ў далёкі цёплы край праз мора шырокае, праз горы высокія. Вялікая дарога, цяжкая дарога! Шмат гіне іх з галаду, шмат забіваюць драпежныя птушкі, шмат і нядобрыя людзі страляюць. Мо‘ толькі палавіна далятае.

## Агарод.



Восень залатая!
Ты нам прынясла
поўны агароды
ўсякага дабра:

моркаўкі, цыбулькі,
бручкі, бурачкоў,
бульбы і капусты,
рэдзькі, гарбузоў.

Усё гэта зложым —
будзе на зіму.
Хто працуе, зімка
не страшна таму.

**Загадка.** Наградцы доўгі і зялёны, а ў бочцы жоўты і салоны.

## Праца мужыка.



Калі гэта кончыш работу?
То косіш, то жнеш, то гарэш,
то цэпам малоціш да поту,
і рэдка калі аддыхнеш.
А там, глядзі, бульба на полі,—
яе-ж трэба зараз скапаць;
а тут няма дроў, няма солі, —
адкуль, як і дзе іх дастаць?
Страха на гумне працякае:
паправіць сьпяшы і яе,
бо дождж, як на зло, ня сьціхае—
ўсё ён ліе ды ліе.



І хлеў, як калека бязногі,
зусім пакрывіўся на бок,
і жджэ маей, бедны, падмогі,
каб зьдзержыць яго хоць кусок.
Куды ты ні глянь — усё работа,
рабі і рабі без канца...
там тына няма, няма плота,
а кошык сьплясьці — ні дубца.
Ня дзіва, што нават ахвоту
к рабоце ты можаш згубіць:
як глянеш, то ўсю гэту работу
ня кончыш да сьмерці рабіць.

# Гудок.

Гудзе гудок... Праменьні сонца
кругом рассыпалі свой сьвет..
Натоўп на вуліцы бяз конца
гудзе... ідзе... і жыцьця рой
з сабой нясець.

Заводу гмах, як рыцар дзе,
стаіць ў далі, і ўсё гудзе...
Каб ўсе хутчэй да працы
йшлі...
і ўсе ідуць...

# На гуце.

Знаёмы Сідарука быў рабочы. Аднаго разу ён спытаўся ў Сідарука: „Хочаш паглядзець нашу гуту?“ — „Хачу“, — сказаў Сідарук. На другі дзень Сідарук з Янкам пайшлі на гуту. Янку зьдзівіў вялізарны будынак, высачэзныя коміны.



У сярэдзіне гуты Янка ўбачыў вялізарную круглую печ, у якой было многа вакенцаў. У печы знаходзілася якаясьці растопленая жыжа. Ад вялікай гарачыні яна была зусім белая. Рабочыя былі без кашуль. З доўгімі трубкамі рабочыя падыходзілі да печы і праз акенцы апускалі іх у жыжу. На канцы трубкі заставаліся каплі гэтае самае жыжы. Тады рабочыя дзьмулі ў другі канец трубкі, і капля, як бурбалка, пачынала расьці і раздувацца. Вось яна зрабілася вялікая і доўгая. Рабочы разрэзаў яе, выраўняў, і Янка ўбачыў звычайнае шкло, што ўстаўляюць у вокны.

На заканчэньне агляду нам паказалі склад, у якім перахоўваліся выробленыя рэчы — бутэлькі, шклянкі, сподачкі, шкляныя кошыкі, місачкі, чарнільніцы і пад.



# Зіма.

Надыйшлі марозы, рэчкі закавалі,
белыя бярозы інеем убралі.
Мяккая пярына вочы адбірае;
белая раўніна — ні канца, ні краю!
Пад пялёнкай белай травы і лісточкі.
Поле анямела. Змоўклі ручаёчкі.
І схіліліся лозы, чуць гальлём хістаюць...
А ў палёх марозы ды вятры гуляюць.

Я. Колас.

# Першы сьнег.

Толькі неба перастала
плакаць, ліць сьлязінкі, —
закружыліся, залятталі
першыя сьняжынкі.

Крыюць дрэвы, крыюць стрэхі,
на зямлю садзяцца,
разгуляюцца пацехай,
срэбрам мігацяцца.

---

Люблю я зіму з маразамі,
завеі белыя ў палёх,
і сьнегу скрып пад палазамі,
і ціш зімовую ў лясох.





## У школу.

Сонейка зірнула
ў мёрзлае вакно,
іскрамі зазьяла
дзіўна так яно.

Рана ўстаў з пасьцелькі
хлопчык Васілёк,
і ў вакне убачыў
сьветленькі дзянёк.

Жыва ён памыўся,
паўтарыў урок, —
кісяльку пасьнедаў
з таткам Васілёк.

Сяньня дзень вясёлы,
зьяе яснатой:
добра бегчы ў школу
дзеткам грамадой.

За вакном, як срэбра,
скрозь бялеўся сьнег.
Хлопчык хутка ў школу
з сябрамі пабег.

**Я. Журба.**

## Нашыя птушкі на выраю.

Зіму зімаваць нашыя птушкі ляцяць у цёплыя краі, на поўдзень, пераважна ў Эгіпет. Там ёсьць вялізарная рака Ніл з шырокімі нізкімі берагамі, багатымі на ўсялякую расьліну.

Шмат яны маюць тут пажывы, але мо' яшчэ больш розных непрыемнасьцяў і небясьпекі. Людзі загарадзілі сеткамі ўсё ўзьбярэжжа, і нашыя перапёлкі, бэкасы, дзяргачы, качкі, сломкі і інш. лёгка становяцца здабычай чалавека. Але мо' яшчэ больш страляюць іх тут багатыя і сытыя людзі, якія зьяжджаюцца сюды на паляваньне са ўсяго сьвету.

На выраю птушкі гнёздаў ня ўюць і песьняў не сьпяваюць. Лётаюць парамі. Трымаюцца блізка вады.

У Эгіпце найбольшае жыцьцё птушкам, калі наляціць шаранча. Шаранча — гэта казельчыкі вялічынёй з мезінны палец чалавека. Лётае шаранча цэлымі хмарамі, аж закрывае сонца. Гэтая зграя ўся, як ападзе на палеткі, у некалькі гадзін сьсячэ ўвесь пасеў. І вось на падмогу чалавеку ў барацьбе з шаранчой зьлятаюцца птушкі. Адкуль і сколькі іх тут ня зьбіраецца! Буслы ходзяць па лугох і ляскаюць дзюбамі казельчыкаў. Чаплі, паставіўшы дугой рабыя шыі, раз у раз штурхаюць даўгім дзюбам шаранчу. А драбяза — чысты сьмех. Малы верабейка мясцовы — стрэчны брат нашага — кругленькі, пузаценькі, — ён і нагамі ў шаранчу ўпіраецца, і крыльцамі б'е, і дзюбай дзяўбе — праўдзівы жаўнер на вайне.

Наш беларус — заядлы паляўнічы, аднак ніколі не адважыўся-б сваю малую з-пад роднае страхі суседачку пакрыўдзіць у далёкай, нязнанай старонцы.

**Прыказка.** Кулік чайку ўзяў за чубайку.

## У зімку.

Маці з калаўротам
села ля вакна;
хоча ставіць кросны
пад вясну яна.

Завіруха плача,
грукае ў вакно,
і грахоча пралка
з ёю за адно.

Каля маткі дзеткі
селі ўсе ў радок.
Ім прытульна, добра —
цёплы іх куток.

**Народная прымета.** Калі вострая зіма, дык будзе гарачае лета.

**Загадка.** Сівы вол выпіў вады дол.

## Малацьба.

Даўно зьвязьлі з поля жыта,
ў восеці сушылі,
на таку, глінай набітым,
снапы насьцялілі.

„Та-та-та!" — штодня нясецца
з гумнішча вясёла.
У татулі ўжо пячэцца
бондачка да столу.

## Шавец.

Я шавец-маладзец,
знаю дзела сваё,
слухаць мусяць мяне
капылы і скур'ё.

Пры варштаце маім
дружна праца ідзе,
жонка дратву прадзе,
вучань ссучэ яе.

Я сам „крой“ намачыў,
на капыл нацягнуў,
стукі-стук! малатком,
шылам, дратвай махнуў.

Падашву прылажыў,
нагнаў штыфтаў кругом,
абсац гладка прыбіў,
дый падкоўку на ім;

капыл выдзер, і вот —
бот на траме вісіць!
Эй, дзівуйся, панок,
добра будзе насіць!

І багат бы я быў
(хоць ня бедзен і так),
каб лапцей не насіў
наш мужык, небарак...

Но ён хіба тады
стане боты насіць,
як ня будзе з чаго
лык на лапці лупіць.

**Я. Купала.**

## Каток.

У Савосева суседа
быў пярэсьценькі каток;
выхаванец Паўла-дзеда,
такі слаўны пястунок.
Нос чарнявы,
хвост бялявы,
задзірасьценькі,
кіпцік-шчыпчык
заграбасьценькі;
лапкі-драпкі
машастовыя,
а шарсьціначкі шаўковыя.
Губкі-зубкі
адмысловыя;
вусы-русы—патарчастыя...
Тая сьпінка, як націнка,
выгінастая.
Вушкі-слушкі
не мыляюцца,
вочкі ў ночку запаляюцца.

Хадзіў каток пад масток,
лавіў рыбку за хвасток,
потым дзеду ён на печы
казкі-байкі варкаваў,
больш хвосьцікам да рэчы
такту сьпевам адбіваў.
Коцік з дзедам жылі ў згодзе,
не сварыліся за печ.



**Я. Колас.**



# В я с н а.



Сонейка паднялося высока. Удзень ужо добра прыгравае. Пачарнелі ўзгоркі. Усюды цякуць ручайкі. Рэчка ажно гудзіць. Шырока разьлілася яна па гародах, затапіла вясковыя лазьні. Дзеці пільнуюць, калі падымецца лёд і пойдуць крыгі. Прайшоў дзень-другі, і раптам штось глуха зашумела, загудзела на рэчцы. — Лёд ідзе! Лёд ідзе!—вясёла крыкнуў Міколка да сваіх таварышоў, і ўсе віхрам паляцелі на рэчку.

## Гымн вясьне.

Прыйшла вясна магутная.
Прырода аджыла.
Устань, усё пакутнае, —
Вясна, вясна прыйшла!

Прыйшла вясна шумлівая,
Руччамі загула;
Шуміць рака бурлівая;
Вясна, вясна прыйшла!



## З вы раю.

Скажэце, птушачкі, вы мне,
чаму не засталіся ў той старане?
З краю, што зьвецца земскі рай,
вы ляціцё ў наш сумны край.
Здалёк ледзь чутны крык ляціць:
„Хоць добра у краю тым жыць,
хоць век пануе там вясна,
мілей нам родна старана:
тут маткі гнёзды нам вілі,
сярод лясоў тых мы жылі,
тут гадавалі нас яны,
сюды ляцім мы што вясны".

**К. Буйло.**

## Пчолка.

Толькі наступіла
пара веснавая, —
выляцела ў поле
пчолка залатая.
Ёй за шчырай працай
весела і шчасна;
тут красуе верба,
сонца сьвеціць ясна.

Лётае па красках
пчолка працаўная,
кветачкі цалуе
і мядок зьбірае.
Назьбірала пчолка
пылку і мядочку;
ім накорміць дзетак
у сваім дамочку...

У вульлі шумліва:
праца там кіпела.
К родненькай сямейцы
пчолка прыляцела.

## Песьня маладога аратага.

Золак зьзяе. Ціха ў полі.
Ў небе чутны дзіўны хор.
Я з вясёлай песьняй волі
выяжджаю на прастор.

Раньніх птушак прывітаньне,
песьні, працу і зямлю
і вясеньняе сьвітаньне —
як-жа моцна я люблю!

Малады і здольнасьць маю;
сілы, гарту ў мяне шмат;
для карысьці свайго краю
працаваць заўсёды рад.

## Шпак.

Шпак пераймае ўсялякія галасы: шпак і гускаю загагоча, і салаўя перадражніць, і курыцу-квактуху, а бывае, што і гутарку людзкую пераймe. Аджыўляецца шпак мушкамі і чарвячкамі і таму дужа вялікую карысьць прыносіць земляробу. Усюды людзі шпакам ставяць на дрэвах стаўкі.

## Прылёт птушак.

Мілыя птушачкі зноў к нам вяртаюцца
з цёплых, далёкіх краёў.
З імі ўсё радасна, шчыра вітаецца,
рады мы бачыць іх зноў.

Песьні нясуцца над шэрай зямлёю,
смутак зганяюць з душы.
Птушкі нясуцца да нас чарадою,
песьні свае нясучы.

## Песьня каваля.

Мой горан пылае
і іскры ляцяць;
я мех уздуваю
і буду каваць...



Працую, гарую,
як моцы стае;
гартую, муштрую
жалеза мае...

У кузьні ад раньня да ночы стаю
і молатам лепшую долю кую...

# Вясною.

Лес ажыў, шчабечуць птушкі,
наляцелі адусюль...
Рэчка жвава коціць воды
і булькоча „буль-буль-буль“...

Жаўручок над полем звоніць,
кветкі пахі шлюць у шум,
а над імі ўюцца пчолы,
байкі баюць „зум-зум-зум“...

Весялей глядзяць сядзібы,
дзеці — з песьняй на дварэ...
На лужку авечкі скачуць,
а ягняткі — „мэ-мэ-мэ!“...

Мёдам пахне у паветры,
шчасьцем поўніцца зямля,
пастушок-жа у сьвісьцёлку
„тру-лю-лю“ і „тра-ля-ля“...

**Улад-Ініцкі.**

---

Шчадзіце, дзеці, маладыя дрэвы—ці то ў лесе, ці пры дарозе, ці ў сваім садзе-агародзе.

---

# На ніве.

Ў полі зранку за сахою
аратай гукае,
Сіўку, друга ў цяжкай працы,
просіць — панукае.

Гэй, мой конік! гэй, мой сівы!
Ну, яшчэ, маленькі.
Варушыся, гэй, ня бойся,
Конік мой сіvenькі.

Сам бяз шапкі, босы ногі,
грудзіна раскрыта;
б'юць каменьні аб нарогі,
скрыгацяць сярдзіта.

Пройдзе баразну аратай,
сошку падтрасае,
сам назад ўвесь падаецца,—
конік службу знае:

сам заходзіць без панукі,
без каманды, спраўна,
аж нейк глянуць на сівога
люба і забаўна.

Аратай-жа, завярнуўшысь,
спыніць друга-Сіўку,
слова ласкавае скажа
і паправіць грыўку.

Гладзіць коніка па шыі,
мух дакучных гоніць,
як-бы з самым лепшым другам,
з сіваком гамоніць.

Конік трэцца галавою
аб яго кашулю...
Адпачыўшы зноў ён цягне
сошачку-крывулю.

**Я. Колас.**

**Прыказкі.** Ня зьмерыўшы броду, ня сунься ў воду. — На яду мастак, а на работу сяк-так. — Сыты галоднаму не спагадае. На сьвеце так бывае: хто працуе, той і мае.



## Лета.

Звоніць поле доляй, воляй,
Звоніць поле ў каласкі;
ў буйным лузе зьзяюць, граюць
краскі, мошкі, матылькі.
Рэчка ўецца ды сьмяецца
да зялёных лоз і вольх,
а ў вадзіцы шыбка рыбка
шмыгаціць на паплаўкох.

**Я. Купала.**

## Касцы.

Касец за касцом выступае,
касец даганяе касца —
адважна і мерна шагаюць
далей і далей без канца.
І сыплюцца мерна узмахі
навостраных кос на траву,
і гіне, бяз жалю і страху,
жывая краса на лугу.

**М. Машара.**



# Жніва.

Угрэла сонца. Жней чародкі
ідуць паважна, як лябёдкі,
у хустках лёгкіх, кофты белы,
іх рукі дужа загарэлы.
Ідуць дзяўчаты, маладзіцы,
і жарты строяць, як блазьніцы,
ідуць шумлівы, гаварлівы,
зьвініць іх голас, сьмех шчасьлівы;
чутна і песьня маладая,—
і поле раптам ажывае.



. . . . .



А жнейкі жнуць. У моры збожжа
мільгае постаць іх прыгожа.
Напрост кладуцца жмені жыта,
растуць снапочкі самавіта,
стаяць, бы лялечкі якія,
глядзяць, як госьці дарагія.
Іх твар палае,
Іх пражыць, сушыць смага тая,
якую трудна ім здаволіць,
якая толькі „піць! піць!“ моліць.

**Я. Колас.**

„Золата, золата падае з неба!“
Дзеці крычаць і бягуць за дажджом...
„Досі вам, дзеці! яго мы зьбяром,—
толькі зьбяром залацістым зярном
ў сьвіранах, поўных пахучага хлеба“!

**М. Багдановіч.**

# Вожык.

У лесе жыў вожык. Выбраў ён сабе пад кусьцікам самае цёмнае месьцейка, нанасіў туды моху і лісьця, зрабіў мяккую пасьцельку і сьпіць цэлы дзень, скруціўшыся ў клубочак.

Пачало цямнець. Высунуў вожык сваю востранькую мордачку, расплюшчыў вочкі, наставіў маленькія вушкі. Нідзе нічога. І пабег шукаць у лесе здабычы. Вось схапіў ён

жучка, злавіў коніка, разарваў жабу. А, пахне мышкай! Прытаіўся, падпусьціў да сябе — цап! І мышка ў вострых зубох вожыка.

Пачуў вожык зьмяю каля карча. Вожык сьмела кінуўся на яе. Гадзюка сваімі атрутнымі зубамі ўхапілася за губу вожыка. Але вожык не спужаўся. Скалануў — і гадзюка адарвалася; вожык схапіў яе зубамі і наступіў лапай.

Зьмяя кідаецца, кусае вожыка ў лапы, у брушка. Пачалася вялікая барацьба. Усё-ж вожык перамог гадзюку і зьеў яе. Пайшоў вожык у сваё гняздо, хоць трохі і паранены, але сыты, і спакойна заснуў.

## На начлезе.



Гасьнець зара дагараючы,
схавалася сонца даўно.
Ночка на люд спачываючы
з неба спусьціла скрыло.

Ціха.—Заснула зямелька. —
Толькі на лядзі, пры самым гаю,
дзетак-начлежнікаў жменька
пасьвіць скацінку сваю.

Разлажылі вагонь малышы,
гульні заводзяць са сьмехам, —
ім зорка міргаець з вышы,
гай адклікаецца рэхам.

То казку каторы гуторыць —
пасядуць навокал агню...
Слухаюць дзеткі, аж зморыць
іх чарамі ночка да сну.

Сьпяць... бачачы казкі працяг.
Ніхто не трывожыць іх сна.
Неба начное — ім дах,
зорка ім сьвеціць да дня.

**М. Машара.**

## Дзядзька.

Вунь дзядзька йдзе!—гукаюць дзеці.
Забылі ўсё яны на сьвеце
і, як мага, бягуць, сьмяюцца,
аж іх валосікі трасуцца.
—А, дзядзька! дзядзечка, саколік!
Насып мне ягад у прыполік!
—Дай мне дубец!—А мне дай вуды!—
крычаць малыя шалапуды,
бягуць і скачуць, б'юць у ладкі,
а дзядзька мерна йдзе з-за кладкі.

**З „Новае Зямлі“ Я. Коласа.**

## Прыяцелі земляроба.

У Францыі па ўсіх дарогах і раздарожжах, па ўсіх палёх і ў лясох разьвешаны такія абвесткі:

„**Вожык** корміцца мышамі, смаўжамі, вусенямі і рознымі іншымі шкоднікамі для земляробства — не забівайце вожыка!“ —

„**Крот** корміцца вусенямі і рознымі чарвякамі; у яго нутру вы ніколі ня знойдзеце расьліннае стравы, — не забівайце крата!“ —



„**Жаба** зьніштажае ў гадзіну да 30 чарвякоў, — не забівайце жабаў!“ —

„**Хрушчы, вусені і чарвякі** — галоўнейшыя ворагі земляроба. Толькі адныя птушкі лёгка могуць распраўляцца з імі. Не вымайце з птушыных гнёздаў ні яечак, ні птушанятак!“

## Да на гары вецер вее...

(*Народная песьня*).

Да на гары вецер вее,
Гаспадар жыта сее,
А сеючы Бога просіць:
„Зарадзі, Божа, жыта
На прышлае лета,
А на корань караніста,
А на колас каласіста,
А на ядра ядраніста...
А на таку ўмалотам,
А ў дзяжы падходам,
А ў печы румяна,
А на стале кахана,
А на стале, як сонейка, —
Гаспадаром на здаровейка“!

**З хрэстаматыі „Родныя шляхі“.**

# Белавеская пушча.

У Пружаншчыне, а часткова ў Бельшчыне і Ваўкавышчыне далёка ўздоўж і ўпоперак раскінулася пушча. Ад імя свайго асяродзьдзя ў мястэчку Белавежы яна называецца Белавескай. У пушчы густы, векавы, надзвычай багаты лес. Тут берэст, граб, дуб, ясень, сасна-веліч, ліпа, бяроза, елка і др. Дрэва ўсё здаровае, гладкае, роўнае. Ёсьць дубы, якія пры карані могуць абхапіць толькі тры-чатыры чалавекі, узяўшыся за рукі. Ёсьць шмат лесу так званага маштовага — высокія, высокія сосны, якія йдуць на машты на караблёх.



Яшчэ да вайны, а асабліва пасьля вайны пушчу пачалі вырубаць. Выраблены лес сплаўляецца па рэчках Нарэўцы і Нарве, а далей Бугу і Вісьле заграніцу, пераважна да ангельцаў і немцаў. За лес бяруць добрыя грошы.

Але пушча цікавая і рэдкая ня толькі сваім лесам. У ёй шмат, шмат усялякіх зьвяроў, якіх няма ў звычайных нашых лясох. Самы цікавы зьвер — гэта зубр. У нас зубры ёсьць толькі ў Белавескай пушчы. Да вайны іх было там каля 1000, а цяпер толькі 14.



Зубр напамінае вялізарнага быка. На сьпіне ў зубра вялікі горб. На шырокі лоб спускаецца доўгая поўсьць, якая зьвісае як барада.



За зубрамі ёсьць асобны дагляд. Цяпер яны загнаны ўсе ў асобнае загароджанае месца — зьвярынец. Лясьнікі ведаюць кожнага зубра. Кожны зубр мае мэтрыку і сваё імя.

Зубры не накідваюцца на людзей, хаця бывалі выпадкі, што забівалі сваімі рагамі. Калі зубр выйшаў на дарогу, лепш яго абыйсьці ці аб'ехаць з канём.

Апрача зуброў, ёсьць у пушчы алені, лосі, сарны або дзікія козы, дзікі, данелі, рысі, барсукі, бабры, не гаворачы ўжо аб лісіцах, ваўкох і зайцах. Алені былі прывезеныя ў пушчу з Сібіру гадоў 50—60 таму назад. Яны хутка размножыліся (да 30.000). Вайна шмат разагнала зьвяроў. А некаторыя з іх (лосі) і самі паўцякалі, як ня стала ранейшага прывольля.

## Барацьба (быль).



Было гэта на беразе Нёмана. Пастушок пасьвіў авечкі. Раптам воўк. Схапіў авечку, закінуў сабе на сьпіну і панёс. Пастушок на'т апомніцца не пасьпеў.

Але ваўку мала гэтае здабычы,—прыбег па другую авечку. Пастушок пачаў крычаць, кінуўся з кіем да ваўка і давай адбіраць авечку. Воўк цягне да сябе, пастушок да сябе.



Крык пастуха пачула дзяўчына — яна тут блізка прахадзіла. Кінулася дзяўчына памагаць пастушку, і хутка адбілі—такі няшчасную ахвяру. Воўк уцёк. Дзяўчына пагналася за ім з кіем. Воўк падбег да дзерава на беразе Нёмана, дзе ляжала задушаная ім першая авечка, закінуў яе сабе на сьпіну і ўплаў пусьціўся на другі бераг ракі. Там ужо чакалі яго вяўчаняты.

## Па грыбы.



Ўсе мы дружнаю сям'ёю
па грыбы прыйшлі у гай —
я ды ён, ды ты са мною...
Хто заблудзіцца — гукай!
Тут вавёрка
раптам скок
па галінках
ды науцёк!
Па камандзе раз-два-тры —
рассыпайцеся, сябры!
Хто найпершы знойдзе грыб—
ці Міколка, ці Піліп, —
той найбольшы будзе зух,
маладзец — адзін за двух.

Толькі, хлопцы, з угаворам—
не бярэце мухамора,
мухамор не баравік,
ён ня будзе у залік.

# Культура і поступ.

## Ад карча да трактара.

У далёкай мінуўшчыне жыта, пшаніца, проса і іншае збожжа расло, як дзікія травы. Але прыгледзіўшыся чалавек пачаў зьбіраць зерняткі, пераціраць іх на муку і выпякаць прасьнякі. Каб гэтых зярнятак сабраць больш, прыдумаў ён абрабляць для пасеву глебу. Спачатку ён драў зямлю карчом або сукаватым кіем: адзін чалавек цягнуў, а другі кіраваў. Працаваць было цяжка, а ўраджаі былі зусім малыя.



Тады людзі дадумаліся да сахі. Стала лягчэй, бо ў саху можна запрагчы валоў або каня. Але саха не падразае карэньняў, зельля і дрэнна адварачвае скібы.



І людзі дадумаліся да плуга. Плуг — сын сахі. Ён і падобны да яе, але ў рабоце куды лепей сваёй маткі. Аднак і плугам цяжка і няспорна працаваць.



І вось прыдумалі гараць машынаю — трактарам. Машына працуе і хутчэй і ляпей. Чалавек перастаў мучыць і сябе і жывёлу. Сам толькі сядзіць навярху і кіруе, а соткі і тысячы баразён сьцелюцца па шырокіх палёх.



Машынная апрацоўка дае большы ўраджай і збожжа лепшага гатунку.

Трактарам можна ня толькі гараць, але і касіць, і жаць, і малоць, і перавозіць збожжа.

# Ад лучыны да электрыкі.

Першабытны і самы просты спосаб асьвятленьня памешканьняў людзкіх гэта ўжываньне лучыны. Каб дастаць самы вагонь, цёрлі доўга адзін кавалак сухога дзерава аб другі або высякалі вагонь помаччу крэмня (скалкі), крэсіва і бярозавае губкі. Так нашыя дзядзькі і цяпер высякаюць вагонь, каб закурыць люльку—таварышку і працы і адпачынку.

Лучыну можна дзерці з сасны, бярозы і другога дзерава. Лучына курыць. Пры ёй цяжка чалавеку дыхаць, у хаце заводзіцца шмат бруду. Найменш курыць бярозавая лучына. Каб лучыну ўтрымаць на пастаўленым месцы, ужывалі ды і цяпер ужываюць на Беларусі асобную прыладу пад назовам „сьветач“ або „дзед“. Сьвятло ад лучыны слабое, няроўнае, шкоднае для вока чалавека, а дым вельмі шкодны для лёгкіх.

Другі спосаб асьвятленьня, таксама вельмі даўны, гэта ўжываньне тлушчу ў каганцох, пазьней — ужываньне лаёвых і васковых сьвечак. Сьвятло тут лепшае, ясьнейшае, больш-менш роўнае.

З XVIII стагодзьдзя зьяўляюцца лямпы, у якіх гарыць газа. Лямпы бываюць малыя (курылкі) і вялікія са шклом. Адныя даюць сьвятла менш, другія больш. Газа рэч даволі каштоўная, дзеля гэтага на Беларусі ня кожная вясковая хата мае добрую лямпу. Полымя ў лямпе роўнае, спакойнае. Чытаць ці працаваць пры такой лямпе добра і для вока ня шкодна. Апрача сьвятла, такая лямпа, калі доўга гарыць, дае ня мала і цяпла на пакой, дзе яна стаіць.

Найнавейшы, найлепшы і самы танны цяпер спосаб асьвятленьня гэта — электрыка. Раз правёўшы драты і ўкруціўшы электрычную лямпку, ня трэба больш ні аб чым клапаціцца. Даволі толькі пакруціць так званы „вылучнік“, і лямпка ўжо гарыць або пагашана. У гарадох электрычныя станцыі перадаюць па дратох электрычны ток ва ўсе дамы, фабрыкі, скляпы, асьвятляюць усе вуліцы, плошчы і г. д. Электрычнае сьвятло, дзе яно ёсьць, можна мець у кожную хвіліну дня і ночы. Электрыка-сьвятло бясьпечнае. Сунь электрычную лямпачку хоць у сена — не загарыцца. Электрычнае сьвятло халоднае. Лямпка награваецца слаба, і яе можна ўзяць у рукі. Электрычнае асьвятленьне з кожным днём пашыраецца ўсюды больш і больш. Недалёкі той час, што і кожная вёска будзе мець электрыку.

# Электрыка на службе чалавека.

Электрыка—магутная сіла. Гэтая сіла ў багатых і культурных гаспадарствах больш і больш дастасоўваецца да розных патрэбаў жыцьця.

У Амэрыцы, Германіі, Саветах і іншых краінах электрычная машына цалком заступае працу каня і чалавека. Там электрычныя рухавікі цягнуць плугі, жняяркі, — малоцяць, сеюць, перавозяць снапы і сена, чэрпаюць ваду са студняў, пілуюць дрэва і т. п. Ёсьць гаспадары, у якіх электрычнымі машынамі выконваецца 30—40 і болей розных гаспадарчых работ.

Яшчэ большае дастасаваньне электрыка мае ў гарадох пры зносінах людзей між сабою.

З гулам, з грукатам страшэнным
яна рухае машыны,
хутка бегае па дроце
(не па ўласнай хоць ахвоце).

Асьвятляе горад бляскам.
Прэ людзей вагоны з ляскам,
што ня справяцца і коні.
Ужывае ў тэлефоне:

за соткі вёрст тваю размову
перакажа слова ў слова.
Тэлеграмы носіць шпарка.
Варыць есьці, як кухарка.

Ці паветра там, ці мора,
усё роўна, ёй ня гора —
прэ бяз дроту па паветры
на шмат тысяч кілёмэтраў...

**Крапіва.**

„Першыя Зерняткі“ таксама друкавала машына электрычным токам.

---

„Працаю сілы прыроды
к людзям у слугі йдуць,
з ёю-ж у сьвеце народы
лепшае долі прыждуць“.

**Цішка Гартны.**

## Як людзі зносіліся між сабою



**д а ў н е й**



**ц я п е р**

**Загадка:** Кіт-вялікан пераплыў акіян, да берага падплывае, вугаль глытае. Возіць народ, завецца...?

# Чыгунка.

Ў два рады між палёў
стройна рэйкі ляглі,
рэжуць нетру лясоў,
точаць грудзі зямлі;

дзе стралою ляцяць,
а дзе дужкай бягуць
цераз горы і гладзь,
сьмела рэчкі сякуць...

Эх, і быстры-ж той гон!
Толькі пыхае дым,
за вагонам вагон
мчыцца зьмеем ліхім!

Мчыцца ў ноч і у дзень,
толькі поле дрыжыць, —
лёгканогі алень,
так арол не ляціць!

**Я. Колас.**



**Загадка:** Ем я вугаль, п'ю ваду, цягну абоз на сто калёс. А завуся...?

## Вёска даўней і цяпер.

Даўнейшы выгляд беларускае вёскі і ўклад жыцьця былі інакшыя, чымся цяпер. Даўней хаты будавалі тапарамі з круглякоў і крылі саломаю, каласамі ўніз. Вокны ў хатах былі маленькія і нізенькія; пабітыя шыбы затыкалі хусьцём або забівалі дошкамі. Под хаты выбіваўся глінай, як ток. Падлогаў ня было. Разам з людзьмі ў хаце жылі зімой куры, авечкі, парасяты, часам і цяляты.

Усе хаты былі курныя, бо ня ўмелі вывадзіць комінаў. Дым з печы выходзіў праз адчыненыя дзьверы або праз дзюрку ў сталяваньні. Лямпы былі толькі ў багатых хатах;

беднyя асьвятляліся лучынамі; рэдка ў каго была газьніца.

Вуліцы часта былі вузкія, крывыя і брудныя. Вясною і ўвосені гразь нявылазная. Такія-ж былі і панадворкі.



Апраналіся людзі ў простую самадзялковую адзежу і насілі лапці. Аб лазьнях рэдка хто і чуў.

Зямлю гаралі сахой, баранавалі дзеравянай бараной. Не зналі ні буракоў кармавых, ні лубіну, ні сарадэлі.

Павозкі былі на драўляных восях; гужы і шлеі былі з вяровак. Жывёла даглядалася дрэнна.

**Цяпер**, гаворачы агулам, жыцьцё на вёсцы зьмянілася на лепшае і парадкі пайшлі другія. Хаты будуюць цяпер на высокіх фундамэнтах, з чэсаных бярвеньняў, на гладкі вугол. Стрэхі хаця і крыюць саломаю, але пад лапату-страхарку, роўна і гладка. Коміны і печы цэгляныя. — Вокны вялікія, пераважна з ваконьніцамі і прыгожай шалёўкай.



У хаце падлога з дошак. На месцы зэдлікаў і калодак—табурэткі, на‘т крэслы. На месцы кублаў — шафы і камоды.

Асьвятляюцца хаты лямпамі, а газьніцу запальваюць толькі ў кухні ды на гумне.

Сялібы складаюцца з некалькіх будынкаў, як-то: гумна, пуні, вазоўні, сьвірана, пограба, хлявоў — кароўніка, аўчарніка, сьвінарніка, на‘т куратніка і гусятніка. Для сабакі і то цяпер ставяць будкі.

Адзежу носяць цяпер з добрага саматканага сукна або палатна, а хто мае лішні грош, той і крамніны купіць, хоць яна вельмі хутка дзярэцца. Абутак у мужчын боты, у баб чаравікі

У гаспадарцы сяляне патроху пераходзяць на шматпольле з пладазьменам, ужываюць штучнае ўгнаеньне, сеюць лепшыя гатункі збожжа, кармовыя травы і г. д. Кожны гаспадар мае жалезны плуг і такую-ж барану, а багацейшыя—

драпакі, спранжыноўкі, арфы і малатаркі. Коні і каровы лепшае пароды.

Калёсы на жалезных восях; запрэжка скураная.

Беларускі каляндар ёсьць блізу ў кожнай хаце. Усё больш і больш пашыраецца на вёсцы беларуская кніжка і газэта.

---

## Беражы сваё здароўе.

Здароўе — найвялікшае багацьце і шчасьце чалавека. Няма нічога мілейшага на сьвеце, як здароўе, і няма нічога так цяжкога і прыкрага, як хвароба. Сільным, поўным жыцьця і радасьці, і здольным да працы можа быць толькі чалавек здаровы. Дзеля гэтага трэба кожнаму сваё здароўе берагчы, а хваробы высьцерагацца.

**Не наражайся на небясьпеку.** Трэба заўсёды быць уважлівым да сябе і сьвядома не наражацца на небясьпеку для здароўя. Найчасьцей хваробы здараюцца ад неасьцярожнасьці.

Адзін хлапец 16 гадоў заснуў на мокрай зямлі—ўстаць ужо ня мог; на ўсё жыцьцё застаўся спаралiжаваным. Касец, умарыўшыся ад цяжкой работы, напіўся вады з якойсьці лужыны — праз чатыры дні ён памёр, пакінуўшы сям'ю з шасьцёх чалавек. Быць заўсёды ўважлівым — менш будзе прастуды, ранаў, апаленьняў, адмарожваньняў, зьвіхаў, пераломаў і т. п.

**Падтрымоўвай чыстату** хаты, у якой жывеш, — пасьцелі, на якой сьпіш, — пасуды, з якой ясі і г. д.. Бруд ёсьць прычынай усіх заразных хваробаў (скулы, тыфус, краснуха, кароста), бо ў ім найлепш гадуюцца заразныя жывучкі, што пападаюць у цела чалавека. Ад бруду-ж разводзяцца вошы, клапы, прусакі і ўсякая нечысьць, з якою так трудна змагацца людзям. Для падтрыманьня чыстаты трэба часьцей мыць і падмятаць падлогу, адчыняць вокны ці форткі, якія павінны быць у кожнай хаце,—праветрываць адзеньне, накрываць дэнцам ваду, каб была чыстая, — бязумоўна ніколі не пляваць на падлогу.

Сонца, сьвежае паветра і чыстая вада — першая патрэба для здароўя чалавека.

**Даглядай сваё цела,** каб заўсёды было чыстым: летам купайся, у-ва ўсякую другую пару абмывайся да пояса



халоднаю вадою і хадзі ў лазьню (лазьні павінны быць у кожнай вёсцы), пасьля работы і перад ежай мый рукі з мылам, палашчы рот і зубы чыстаю вадою, ня тры вачэй бруднымі рукамі, стрыжы ногці, чысьці вушы, дыхай носам, а не ротам, сьпі на правым баку.

Тут да рэчы будзе ўспомніць параду аднаго доктара (француза), які не хварэючы пражыў да ста гадоў: „Заўсёды трымай жывот у голадзе, галаву ў холадзе і ногі ў цяпле" („у голадзе" трэба разумець — не аб'ядацца).

**Парадак у жыцьці.** Кожны дзень у адну і тую-ж гадзіну сьнедаць, абедаць, лажыцца спаць, прымацца за працу. Прывычная праца заўсёды спарней. — У-ва ўсім павінна быць мера. асабліва ў ежы. Калі мы ямо больш, чым можа пераварыць наш жывот, мы захварэем. **Мы ямо, каб жыць, а ня жывём, каб есьці.** — Ня трэба дарма, папустому траціць свае сілы, як ня трэба дарма траціць і свой час і адымаць яго ў другога.

**Высьцерагайся заразы:** не хадзі да хворага на тыфус, не карыстайся ручнікам ці адзеньнем хворага на трахому, сухоты; ня еж з ім з аднае міскі; не чашыся чужым грэбенем. З усякай хваробай пачынай бароцца як найраней: на пачатку яна хутчэй паддасца лекам.

**Ня вер шаптуном і знахаром, а зварочвайся да доктара.**

Аберагаць сваё здароўе цяжка аднаму. Студняй, напрыклад, карыстаюцца ўсе, таму ўсе павінны і даглядаць яе: студня павінна быць накрытая, не дазваляць прыходзіць са сваімі вёдрамі — павінна быць адно агульнае вядро; жывёлы не паіць з гэтага вядра. Таксама што да лазьняў, лекарскіх пакояў, лячніцаў для жывёлы — гэта справы ўсяго жыхарства вёскі.

**З моладу прывучай сябе да чыстаты і парадку заўсёды і ва ўсім.**

## Рагуліна прамова да свайго гаспадара.

Я, сялянская карова,
прашу слова, дайце слова!
Ну, за што цярплю я зьдзек
праз увесь каровін век?

У хляве — гуляй у жмуркі,
толькі сьвецяць трохі дзюркі.
У ім, папраўдзе вам кажу,
я ўсю зімачку дрыжу.

Ем-жа я адну салому.
Дык вядома і малому,
што не дам шмат малака—
трэба сена ды мука.

Як саломы я ня выем,
дык ты перыш мяне кіем
па сьпіне ды па баку —
дзе-ж таму быць малаку?

Ня зьбівай мне кіем сьпіну,
а давай лепш канюшыну,
бі больш рэпай, бураком,
тады будзеш з малаком.

Па вядру даваць я стану, —
будзеш есьці сам сьмятану,
сыры, масла ды тварог.
Астанецца й на налог.

**Крапіва.**

## Саматугам.

У бацькоў Антося была толькі шасьціна зямлі, і жылі яны бедна. Калі Антосю было сем гадоў, бацька паслаў яго пасьціць авечкі. Праз два гады Антось ужо наняты за пастушка ў фальварку. Штодзень трэба было ўставаць да сонца і ня раз мокнуць пад дажджом у полі.

Адну зіму, калі Антось быў дома, бацька паказаў яму буквы. Антось хутка навучыўся чытаць, а пасьля і пісаць. Падчас навукі здабыў ён новых таварышоў, якія нейдзе даставалі беларускія кніжкі і старыя часапісы. Часта, скончыўшы хатнюю работу, зьбіраліся яны то ў аднаго, то ў другога, і разам чыталі і абгаварывалі прачытанае, дэклямавалі і складалі вершы. Іншы раз прыходзіў да іх „дырэктар“ — вучань былушае беларускае гімназіі, які памагаў ім сваімі выясьненьнямі. Калі на Каляды суседні гурток ладзіў беларускі спэктакль, артысты ня мелі лепшых памоцнікаў, як уся гэтая грамадка дзяцей. На ўсё жыцьцё памятным для Антося застаўся той дзень, калі ён першы раз дэклямаваў са сцэны вызначаны яму верш „Наш родны край“ Я. Коласа:

...Наша поле кепска родзіць.
Бедна тут жыве народ,
У гразі ён, бедны, ходзіць,
А працуе — льецца пот.

Кожнае лета Антось на фальварку, але пасучы яму ня было ўжо так цяжка, як раней, бо ўсюды яму спадарожнічала кніжка. Чым болей Антось чытаў, тым мацней забівалася ў галаву думка: „А што я буду рабіць, калі вырасту? Ці-ж мне ўвесь век быць пастухом? Не, трэба вучыцца, каб бацьку і бедным людзям памагаць, дый сабе на хлеб зарабляць".

За некалькі гадоў службы Антось сабраў троху грошаў на вучэньне. Гэтыя грошы адчынілі перад ім дзьверы земляробскае школы. Навука ў школе давалася Антосю лёгка, бо ён быў вельмі старанны і здольны, да таго-ж меў ужо дасьведчаньне з гаспадарскае працы.

Скончыўшы школу, Антось вярнуўся дамоў і пачаў сам весьці бацькаву гаспадарку. Хутка яна паправілася, бо ён з навукі ведаў, як падыйсьці да зямлі, каб яна давала найбольшую карысьць. Гледзячы на Антося, пачалі і другія гаспадары пераймаць то адно, то другое, асабліва штучнае ўгнаеньне, якога дасюль не ўжывалі.

Разам з суседзямі Антось залажыў гарод і інспэкты, у якіх для ўсяе ваколіцы гадаваў добрую рассаду. Працавалі і даглядалі гарод па чарзе. За два гады працы супольны гарод стаў вельмі даходным прадпрыемствам. Колькі разоў у тыдзень Антось ці яго таварышы вазілі ў горад воз або два ўсялякае гародніны, і мелі ад таго немалую карысьць.

З пачыну Атнося заснаваўся ў вёсцы коопэратыў. Сяляне прадавалі ў коопэратыў сваё збожжа, лён, бульбу, яйкі, палатно, — і куплялі ў ім розныя гаспадарчыя прылады. Яшчэ прайшло троху часу, і па думцы Антося некалькі суседніх вёсак адчынілі супольна малачарню, якая куплялa ад сялян малако, перарабляла на масла і адсылала яго ў гарады.

Не забываўся Антось і аб грамадзкай працы, хаця напатыкаў розныя перашкоды. Дзякуючы яму пачалося на вёсцы хатняе навучаньне беларускай граматы. Цяпер Антось і бліжэйшыя да яго людзі робяць захады, каб узнавіць „завешаны" гурток і адчыніць пры ім бібліятэку, сарганізаваць вячэрнія курсы для малаграматных і паставіць радыё. Працаваў Антось і над тым, каб здабыць беларускую школу, дзе вясковыя дзеткі маглі-б вучыцца ў роднай беларускай мове.

„Больш-бы такіх людзей на нашую цёмную і бедную вёску!" — кажуць сяляне, гледзячы на працу Антося.

—

# Вучэньне — сьвет, нявучэньне — цьма.

...Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
свой пачэсны пасад між народамі.

**Я. Купала.**

## У школе.

Навакол сьнягі
засыпаюць палі.
Высокія гурбы
навакол ляглі.
У школе-ж так слаўна:
разьліта цяплынь,
радамі растаўлены
лаўкі, сталы;
раскладзены сшыткі,
і сотнямі кніг



красуецца шафа
ля белай сьцяны.
Прыходзіць настаўнік —
тады цішынёй
напоўніцца школьны
прасторны пакой.
І тут вось, за працай,
за чыткаю кніг,
мацнее, расьце
малады будаўнік.

## Дзеткам.

Вучэцеся, дзеткі, дужэйце на волі,
каб скарбы навукі знайсьці,
каб лепш было з жыцьцем змагацца за долю
на роднай і мілай зямлі!
Бо цяжка, ой цяжка змагацца тым людзям,
хто ў вечнай цямноце жыве!
Ня бачыць ён сьвету і бачыць ня будзе,
бо сьвет той навука дае.

**М. Рамаоўскі.**

## Наш палетак.

Наш палетак паміж межаў,
З-за каторых цьвіце збожжа,
А наш скравак штось залежаў,
Наш загон зыйсьці ня можа.

Наш сявец ня раз там кідаў
Залатое зерня з жмені...
Ён не раз там колас выдаў,
А у нас расьлі камені!..

Ці то глеба да нічога?
Ці то рукі ў нас слабыя,
Што ня маем зерня свога,
Што мы ходзім, як сьляпыя?

Наш палетак не гараны.
Палынамі цьвіце ніва.
Ну-ж , браткі, сваты, кумпаны,
Да работы станьма жыва!

Глеба чорна, ў руках сіла,
Толькі нашых гаратаяў
Некась мара ўсё звадзіла
Дзесь за межы—да выраяў...

Хто гараці добра зможа,
Хто разоры скора ладзіць,
Хто шчасьліва сее збожжа,
Хто гароды добра садзіць, —

Жыва, жыва за работу,
Без аглядкі, хто што можа!
Усе роўны, без расчоту —
Усіх праца будзе згожа.

**М. Крапіўка.**

## Песьня.

Па шырокай Беларусі
няхай песьня паляціць,
хай у траўцы зашапоча,
каласамі зашуміць.

Хай прабудзіць яна рэха
сярод вёсак, гарадоў,
хай ўпадзе людзям у сэрцы,
расхвалюе ў жылах кроў.

Хай ляціць праз сенажаці,
цёмным лесам здрыгане.
Усё гора, ўсю нядолю
з Беларусі пражане.

**А. Бярозка.**

| Працай і навукай зьнішчым беднасьць і някультурнасьць. |
| --- |

**Прыказкі:** Нявучоны ўсё роўна, як сьляпы. — Байбусам вырас, а вума ня вынёс. — Пісаў пісака, сам не прачытае небарака.

## Першыя барозны.

Выйшлі раніцай вясною
людзі ў поле на ральлю...
—Но, Гняды!—і плуг сталёвы
ўеўся глыбака ў зямлю.

— Но!.. ўзаром, забаронуем,
выйдзем поле засяваць...
Будзе жаўранак да ўсходу
песьні звонкія пяяць.

Можа ўзыйдзе рунь густая,
можа стопчыцца дажджом?..
З роем думак неспакойных
йдзе араты за плугом.

**Максім Танк.**

## Знаньне—багацьце.

Вы, душы юнацкія — зоры пад сонцам,
Краскі маёвыя ў роднай старонцы.
Моладзь — вы—дзеці вясны златагрывай,
Чыстыя гукі песьні гульлівай!

Многа ў жыцьці вам спаткаць давядзецца—
Кволае дрэўка бяз ветрыка гнецца;
Будзьце-ж вы моцнымі, будзьце прыгоднымі
Быць для старонкі дзяцьмі яе роднымі.

Толькі навука, навука і праца
Нам дапаможа з нядоляй змагацца.
Знаньне здабудзем, а з гэтым багацьцем
Служкай па сьвеце ня будзем бадзяцца.

З ведай здабудзем мы волю і сілу.
Станем-жа роўныя побач з усімі.
Споўніце, мілыя, споўніце гэта —
Скажаце шчырае „дзякуй“ паэту.

**Міхась Васілёк.**

## Да працы.

Браты! Вялікая дарога
чакае нас і родны край.
Настала жніва, працы многа,
навукі зерня засявай.

Нясеце сьвет—у змроку дрэмле
наш мілы край, наш родны кут.
Няхай ўваскроснуць нашы землі,
няхай асьвеціцца наш люд!

**Я. Колас.**

## Сявец.

Ўставай, сявец. Бяры сяўню,
аўса, вады давай уволю
свайму любімаму каню,
і едзь пасьпешна ты у поле.

За зіму ўспрэўшая зямля
табе аддасьць за працу многа.
Ўставай, сявец! Няхай сяўня
ня будзе пуста і убога.

Рукой зярнят бяры паўней,
ды кідай мерна жменя ў жменю;
са збожжам ў сэрцы думкі сей
Надзеі, Праўды, Адраджэньня.

**Цішка Гартны.**

## Беларусам.

Гэй, вы ўсе, каго зваць Беларусам,
Не зракайцеся роднае мовы,
Не чурайцеся на‘т пад прымусам,
І пад звонам кайданаў сталёвых.

Ад прадвеку, ад дзедаў-прадзедаў
Гэта спадак і скарб ваш багаты,
Жыцьця вольнага, памяць пабедаў,
Цяжкай працы і волі утраты.

Дык няхай-жа жыве наша мова,
Гэты скарб наш, на доўгія годы,
Зажывём і мы з ёю нанова
Без бяды, без жуды, без нягоды.

**Алесь Гарун. 1910.**

**„Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі“.**

**ФР. БАГУШЭВІЧ, 1891 г.**

# З Ь М Е С Т.


Часьць букварная . . 3—44

**Чытанка для дзяцей.**

Зімовыя забавы . . . . 45
Дзедка-Мароз—Я. Журбы 45
Жучок . . . . . . . . 46
Козьлік. Верш . . . . . 46
Міколка . . . . . . . . 47
Гэта мы так гуляем . . 47
Мядзьведзь і жнейка (казка) 48
Барада (гульня) . . . . 48
Калыска. Верш . . . . 49
Настуліна гаспадарка . . 49
Верабейка. Верш. . . . 50
Селянін і мядзьведзь (казка) 50
На гаспадарцы. . . . . 51
Скарагаворка . . . . . 51
Нашы прыяцелі. Верш. . 52
Задачкі. . . . . . . . 52
Жарт . . . . . . . . 53
Калыханка. Верш. . . . 53

**Беларусь і беларусы.**

Родны Край. Я. Коласа . 54
Беларуская зямліца . . . 55
Вясковая хатка. М. Машары 56
Славяне . . . . . . . 56
Палескія абразы. Я. Коласа 57
Беларусь у далёкай мінуўшчыне . . . . . . 58
Мой край. Верш . . . . 60
Беларусы і іх жыцьцё. . 60
У хаце. Верш М. Машары 62
Нашы песьні. Р. Ш. . . 62
Будучыня. Верш Галубка. 64

**Прырода і праца на Беларусі.**

Восень. Верш Я. Коласа. 65
Жураўлі. Верш. . . . . 66
У вырай . . . . . . . 66
Агарод. Верш . . . . . 67
Праца мужыка. Верш . . 67
Гудок. Верш. . . . . . 68
На гуце . . . . . . . 68
Зіма. Верш Я. Коласа . . 69
Першы сьнег. Верш. . . 69
У школу. Верш Я. Журбы 70
Нашыя птушкі на выраі . 70
У зімку. Верш. . . . . 71
Малацьба. Верш . . . . 71
Шавец. Верш Я. Купалы 72
Каток. Верш Я. Коласа. . 72
Вясна . . . . . . . . 73
Тымн вясьне. Верш . . . 73
З выраю. Верш К. Буйло 74
Пчолка. Верш . . . . . 74
Песьня маладога аратага. 75
Шпак . . . . . . . . 75
Прылёт птушак. Верш. . 75
Песьня каваля. Верш . . 75
Вясною. Верш Улад. Ініцкага 76
На ніве. Верш Я. Коласа 76
Лета. Верш Я. Купалы . 77
Касцы. Верш М. Машары 77
Жніва. Верш Я. Коласа . 78
Золата, золата падае з неба. Верш М. Багдановіча 78
Вожык. . . . . . . . 78
На начлезе. Верш М. Машары . . . . . . 79
Дзядзька. Верш Я. Коласа 80
Прыяцелі земляроба . . 80
Ды на гары вецер вее. Народная песьня . . 80
Белавеская пушча . . . 81
Барацьба (быль) . . . . 82
Па грыбы . . . . . . 82

**Культура і поступ.**

Ад карча да трактара . . 83
Ад лучыны да электрыкі. 84
Электрыка на службе чалавека . . . . . . 85
Як людзі зносіліся і зносяцца між сабою . . . 86
Чыгунка. Верш Я. Коласа. 87
Вёска даўней і цяпер . . 87
Беражы сваё здароўе . . 89
Рагуліна прамова да свайго гаспадара. Верш Крапівы 91
Саматугам . . . . . . 91

**Вучэньне—сьвет, нявучэньне—цьма.**

У школе. Верш . . . . 93
Дзеткам. Верш М. Раманоўскага . . . . . 93
Наш палетак. Верш М. Крапіўкі . . . . . 94
Песьня. Верш А. Бярозкі 94
Першыя барозны. Верш Максіма Танка . . . 95
Знаньне—багацьце. Верш Міхася Васілька . . 95
Да працы. Верш Я. Коласа 95
Сявец. Верш Ц. Гартнага 96
Беларусам. Верш А. Гаруна 96

